

«Ператоча – 2019» → 3

# Ніва


Новыя вершы Жэні → 8

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3300) Год LXIV Беласток, 11 жніўня 2019 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Падляшскія зубраняты ў «Зубронку» (2)

Калі сонца само пачало перабівацца праз высокія сосны, нашы дзеці ўжо рыхтаваліся да ранішняй зарадкі. Пазней кароткая размова ў крузе пра планы і задачы на цэлы дзень, а гэты канчаўся а гадзіне 21 сустрэчай пры вогнішчы. Святло ў пакойчыках вучняў гарэла часта нават і да трэцяй гадзіны ночы — гэта хлопцы з Бельска працягвалі зацятыя гульні ў Кэнта, другія карысталіся інтэрнэтам, да якога доступ быў магчымы толькі вечарамі, а яшчэ іншыя заходзілі ў пакойчыкі дзяўчат. Нават калі на пачатку чуліся нараканні, што ў «Зубронку» строгі рэжым дня, пазней было відаць, што дзеці папрывыкалі, а нават такі рытм добра на іх уздзейнічае. Дзеці падобныя на акумулятары. Калі яны ў адзіноце, яны хутка „падаюць” і маюць патрэбу ў доўгай рэгенерацыі. Аднак, калі яны знаходзяцца ў „звязку”, яны працуюць доўга без бачных прыкмет разраду і нават невялікі перапынак можа эфектыўна зарадзіць іх для далейшых кіламетраў вандроўкі.


Побач помніка Максіму Танку

### ЖЫВЫЯ МЕСЦЫ ЛЮДЗЕЙ З ПАДРУЧНІКАЎ

Паколькі часам урокі беларускай мовы асацыююцца нам з занудлівымі заняткамі і расказамі аб даўняй гісторыі, або аб класіках беларускай літаратуры, то вучні ў „Зубронку” паспрабавалі альтэрнатыўнай формы навучання — ездзілі па слядах самых выдатных творцаў беларускай літаратуры і культуры. Літаратуразнаўчыя экскурсіі спалучалі прыемнае з карысным. Дзякуючы таму вучні прайшлі экспрэс-паўтор па літаратуры і гісторыі, дабраўшыся аўтобусам да месцаў звязаных з Янкам Купалам, Максімам Танкам, Міхалам Агінскім ці са славутым родам Радзівілаў. Усё пачалося з паэтычнай вечарыны, прысвечанай Максіму Танку. Дзеці зачыталі вершы паэта, а пра яго жыццё і дзейнасць расказала супрацоўніца «Зубронка», выпускніца факультэта гуманітарных навук. Вечарыны, прысвечаныя пісьменніку, праводзяцца перыядычна.

— У «Зубронку» кожную змену ладзіцца акцыя «Максім Танк. Чытаем разам», — сказала працаўнік НДЦ «Зубронак» Таццяна Куцко. — Максім Танк з'яўляецца нашым земляком, ён апісваў гэту прыгажосць, нашы маляўнічыя краявіды, пісаў пра возера Нарач. Таму, калі да нас прыехалі госці з Беласточчыны, якія валодаюць беларускай мовай, мы прапанавалі і ім паўдзельнічаць у гэтай акцыі.

Наступнага дня выехалі мы на камфортным аўтобусе ў напрамку Мядзела, дзе знаходзіцца адзіны ў Беларусі помнік пісменніку. А наша падарожжа пачалося ўжо з аўтобуса, аглядаючы з акон край азёраў, лясоў і бязмежных палёў. Наш маршрут вёў берагам найбольшага возера Беларусі, Нарач, у якім Танк у юнацтве лавіў рыбу. Пазней гэтае возера таксама стала натхненнем для напісання чарговых вершаў, з якіх відаць, што Танк быў уважлівым назіральнікам навакольнага свету.

На самой справе развітальны баль у «Зубронку» крыху нагадваў тыя колішнія на замках у Міры ці Нясвіжы, якія мы таксама наведалі. Вучні пад вокам прафесійнага харэографа вучыліся танцаваць беларускія танцы, у тым ліку паланэз. Спадарыня Таццяна Куцко прынесла дзяўчатам прыгожыя сукенкі, а хлопцам белыя кашулі. Паколькі адкрыццё летніка было таксама шумным, але расейскамоўным, развітальны баль прайшоў пры беларускай музыцы, танцах і слове. Вучні з Падляшша і на развітанне зноў здзівілі публічнасць.


Развітальны баль у «Зубронку»

— Я на фартэпіяна грала „Развітанне з радзімай” Міхала Клеафаса Агінскага. Гэта такі твор, які мне вельмі падабаецца. Яго тэма падышла, таму што мы наведалі сядзібу Агінскага ў Залессі, — сказала Ева Іванюк. — Гэта неверагоднае шчасце пабываць у Залессі і яшчэ зайграць цудоўны твор у Беларусі перад публічнасцю.

Ева ў маёнтку Агінскага захаплялася музычнымі інструментамі, Міколку спадабаліся партрэты, а старэйшыя хлопцы пазайздросцілі Агінскаму залы гульняў, у якой знаходзіцца стол з шахматамі і більярдны стол.

З'язджаючы з «Зубронка» ў напрамку Мінска, заехалі мы яшчэ на бацькаўшчыну Янкі Купалы ў Вязынку. Менавіта тут, у колішнім маёнтку, нарадзіўся Ясь Луцэвіч, будучы народны паэт Беларусі Янка Купала. Вучні зайшлі ў хату, якая была рэстаўраваная паводле архіўных дакументаў і ўспамінаў старажылаў Вязынкі, у якой у 1882 годзе нарадзіўся будучы паэт. Будынак сапраўды стары, акружаны вербамі і ракой Вязынкай, выпраменьвае непаўторную атмасферу, якая дазволіла нам адчуць сябе будучымі ўладальнікамі папараці-кветкі, якую тут штогод шукаюць і, як адзначыла дырэктарка «Зубронка» Надзея Ануфрыева, у Беларусі заўсёды знаходзяць.

### МАЛАДЫЯ ГУЛЬЦЫ, СУСВЕТНЫ СПОРТ

Паколькі Цэнтр «Зубронак» лічыцца таксама санаторыем, прапануе шырокі спектр аздараўленчых паслуг. Дзеці хадзілі на масажы, у саўну, на араматэрапію, пілі гарбату на зёлках і гранатны кактэйль з кіслародам. Кожнага дня было таксама шмат спартыўных заняткаў.

— З мэтай фармавання здаровага ладу жыцця і развіцця спартовых магчымасцей і здольнасцей нашых выхаванцаў, якія прыязджаюць да нас у цэнтр, нашымі інструктарамі праводзіцца сістэматычная праца, — сказаў адзін з апекуноў, Уладзіслаў Жаўняровіч. — Гэта, напрыклад, спартыўныя спаборніцтвы па футболе.

Менавіта вялікія эмоцыі выклікаў матч, які згулялі нашы хлопцы з камандай з Японіі. Хаця былі вялікія спадзяванні на перамогу, гэтым разам мацнейшымі аказаліся хлопцы з краіны самураяў. Таццяна Куцко, кіраўнік дэлегацыі з Польшчы ў «Зубронку», на суцяшэнне сказала, што апошнім часам паразу ад кволых сірыйцаў (на першы погляд) атрымала добра абсталяваная каманда масквічоў. Але нават гэта не папсавала сяброўскіх адносін паміж дзяцьмі, якія папоўнілі круг сяброў у фейсбуку і інстаграме, разлічваючы на чарговыя сустрэчы на беларускай зямлі.

### МАЛЫМІ КРОКАМІ Ў БЕЛАРУШЧЫНУ

Беларусь вачыма дзяцей гэта цудоўная прырода, файныя сяброўствы, смачная кухня, сапраўднае марожанае і прыгожыя дзяўчыны. Згэтуль нашы дзеткі завезлі дамоў поўныя заплечнікі ласункаў, якіх, паводле іх слоў, няма ў Польшчы, і сувеніраў з усіх месцаў, якія мы наведалі ў Беларусі. Магчыма, гэта сувеніры, якіх не рэкамендуюць купляць вопытныя вандроўнікі, але напэўна яшчэ доўга будуць прыносіць ім радасць. Не думаю тут толькі пра кілішкі з надпісам «Нясвіж», але таксама саламяныя кветкі, якія вытырkаліся з заплечнікаў у час вяртання, скураныя бранзалеты, магніты ці завушніцы, якіх не пасаромелася б самая Барбара Радзівіл.

У летніку ў «Зубронку» прыняло ўдзел 36 дзяцей, якія вывучаюць беларускую мову на Падляшшы. Гэта былі перш за ўсё вучні бельскай «тройкі», школ у Гайнаўцы, Орлі, але таксама адна асоба з невялікай школы ў Залуках і адна са школы ў Бабіках. З 25 ліпеня па 3 жніўня знаёміліся яны з культурай і традыцыямі Беларусі. Дзякуючы такім паездкам вучням хочацца ў Беларусь вярнуцца. У чарговым і апошнім ужо адрэзку даведаемся пра 36 прычын трыццаці шасці дзяцей, дзеля якіх варта і трэба вярнуцца ў Беларусь.

(працяг будзе)

Тэкст і фота
**Уршулі ШУБЗДЫ**





# Як Чапаеў

— Васілій Іванавіч, — пытае Пецька ў Чапаева, — а ты дывізіяй камандаваць змог бы?

— Магу, — адказвае ў задуменні Чапаеў. — І арміяй магу, і цэлым фронтам.

— А інтэрнацыянальнымі войскамі сусветнага пралетарыяту? — крычыць у захапленні Пецька.

— Не, Пецька, не магу. Моў я іхных не ведаю, — сціпла і з жалем тлумачыць Чапаеў.

Гэта дыялог з фільма пра Чапаева. Яшчэ раз давялося паглядзець гэтае старое слаўнае кіно. Я проста моцна захварэў, і дакторка ўлажыла мяне ў ложак. Сказала, каб ляжаў як немаўля, толькі замест соскі ў вуснах трымаў тэрмометр пад пахай. Добрая дакторка. Але зараз не пра яе.

Паўстала чарговы раз пытанне, што рабіць ляжачаму хвораму, каб крыху развеяць думкі пра няўручнасць свайго становішча і прытупіць непрыемныя адчуванні ад самой хваробы і яе лячэння. Яшчэ з папярэдняга падобнага досведу я ведаў, што сярод рознага тыпу дапаможнікаў, як адцягнуць увагу ад свайго гаротнага стану, важнае месца займае тэлевізар. І зноў жа з папярэдняга вопыту не забыўся, што асабіста для мяне гэта яшчэ адна пакута ў дадатак да хваробы, бо беларускае тэлебачанне нішчыла маю нервовую сістэму мацней чым алкаголь. Праўда, значна больш чым той алкаголь і дапамагала адвесці думкі ад хваробы. Таму вырашыў рызыкнуць яшчэ разок і прысвяціць прагляду прапанаваных нашаму народу тэлеканалаў цэлы дзянёк без адрыву ад блакітнага экрана.

Але нечакана для сябе прысвяціў я гэтаму занятку крыху больш часу чым планаваў, бо з тэлевізарам некалькігадовай даўнасці ўбачыў пэўныя адрозненні і вырашыў іх прааналізаваць. Ну хворы ж! Што яшчэ хацець ад хворага?!

Прыемна ўразіла адна акалічнасць, якую я папярэднім разам прадказаў. Я тады яшчэ артыкул пра тое напісаў у „Ніву”. Ну так шмат у той час скормлівалі народу праз блакітны экран ідэалагічных вобразаў і прымушалі людзей верыць у падман, ведаючы, што гэта падман, што аж экран чырванеў і не быў ужо такі блакітны. Цэлыя суткі запар так атуплялі, ажно стала страшна, што можна развучыцца чытаць.

Ну вось, тады я растлумачыў такі стан рэчаў вялікай колькасцю ідэолагаў у Беларусі. Ну нешта ж трэба ім рабіць. А прадказаў тое, што ў хуткім часе гэтая істэрыя пойдзе на спад і набудзе больш дэбільныя формы, якія звычайным гледачом не будуць засвойвацца. І растлумачыў гэта тым, што ідэалогіі то аніякай няма! Ідэолагі ёсць, а ідэалогіі няма. Гэта нашае айчыннае вынаходніцтва. Вось таму тыя ідэолагі выпусцяць увесь пар, а што пасля рабіць самі баяцца памыліцца. Няма ад чаго адпіхнуцца.

Ва ўсіх нашых суседзяў моцныя ідэалогіі — і ў палякаў, і ў літоўцаў, і ў латышоў, і ў украінцаў, ну і ў рускіх, вядома ж. Яны там вельмі розныя, часта супрацьлеглыя, але ёсць. А тут няма. Вось ідэолагі і баяцца. Не ведаюць куды паверне флюгер заўтра. Таму ўсё сціпла. Крыху кіраўнік краіны займае час ва ўсіх тэлепакетах. Але не так як раней. Вось даў указанні земляробам, колькі трэба сабраць зерня, і саступіў месца фільмам. Фільмы і старыя, і замежныя, і нават пра Чапаева паглядзець можна. З беларускай мовай толькі засталося як і раней. Ніяк. Ну дык ужо пісаў, што ідэалогіі бракуе.

А вось засілля расійскіх каналаў то хоць адбаўляй. Там усё, і Чапаеў, і ідэалогія. Галоўная тэма там пра тое, як пагана зараз на Украіне. Ну, а што ў самой Расіі робіцца, гэта неяк не асабліва распаўсюджаная тэматыка. Прыкладам, тэледыктары проста плююць на такую праблему, што гарыць тайга, а тушыць няма каму і няма за што. Прычым плююць так моцна, што каб плявалі ў правільным кірунку, то тайгу патушылі б.

Але агульнае ўражанне такое, што глядзець няма чаго ўвогуле. Большую частку часу я тупа пераключаў каналы і ўспамінаў дзяцінства, калі быў толькі адзін канал і глядзець таксама не было чаго. І я марыў тады, у замкнутых межах СССР, хоць раз пабываць на Захадзе, дзе каналаў так многа, што можна выбіраць.

Ну вось зараз іх многа і ў нас, а выбару як не было, так і няма. І зноў, як у дзяцінстве, з'явілася наіўнае жаданне прааналізаваць заходнія тэлепакеты. Ці там ёсць той жаданы выбар? Я то многа разоў быў у заходніх краінах, але тэлевізар не глядзеў. Іншыя заняткі былі, таму і не прааналізаваў. І, на жаль, не прааналізую. Моў я іхных не ведаю. Як Чапаеў.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Тэхніка цвіка

У інтэрнэт вярнулася небяспечная ідэя як папоўніць дэфіцыт жалеза. «Проста набіце металічныя цвікі ў яблык і пакіньце іх на некалькі дзён, потым з'ешце яблык — без цвікоў», — пішуць жанчыны, асабліва на форумах для будучых мам. Лекары хапаюцца за галовы! Цвікі могуць утрымліваць прымешкі цяжкіх металаў, такіх як кадмій, свінец, нікель, якія вельмі шкодныя для дзіцяці. Акрамя таго, жалеза ў выглядзе іржы, вытраўленай яблычнай кіслатой, дрэнна засвойваецца чалавечым арганізмам. Аднак папярэджанні лекараў нічога не значаць проціў алхімічнай медыцыны нашых бабуль. Мы, здаецца, даверяем больш уласцівай чалавечай магічнай культуры, неаддзельнай ад арыгінальнай лячэбнай тэрапіі, чым навуцы, якой усё больш герметычная мова гучыць у нашых вушах як загаворы злых шаманаў. Белая магія і чорная магія ... Першая заснавана на недаказанай інтуіцыі, другая заснавана на строгіх ведах, але ўсё больш абыякавая для неазнаёмленых. Калі ў першым выпадку дастаткова паверыць сардэчным аўтарытэтам маці і бабуль, то ў другім трэба прайсці няпросты шлях шматступенных пазнавальных ініцыяцый.

Інтуітыўнае веданне свету сапраўды эгалітарнае, хоць і абцяжарана невяданнем і часта нахабствам. Веда, як правіла, элітарная, таму што патрабуе інтэлектуальных намаганняў, якіх большасць з нас, з-за прыроджанай млявасці людзей, не хоча распачаць, хаця доступ да элітарных ведаў цяпер найбольш эгалітарны. Сапраўды той жа механізм перакладаецца ў іншыя, не сказаць «усе» сферы рэчаіснасці. Эгалітарызм і элітарнасць характарызуе палітыку, адносіны да спадчыны мінулага і практыкі будучыні, да прыроды і, нарэшце, да самога чалавека. Абедзве гэтыя фармацыі адначасова фармуюць нашу рэальнасць. У той жа час яны адкрываюць новыя прасторы ўзаемных непаразуменняў. Самае галоўнае непаразуменне — тое, што прыналежнасць да эліты камусьці прыроджана. Дзякуючы лічбавым тэхналогіям мы ўсе можам быць адначасова элітарнымі або эгалітарнымі. Шмат што залежыць ад нашых індывідуальных поглядаў, выбараў і гатоўнасці. І перш за ўсё, ад таго як мы выказваем свае перакананні або погляды. Таму справа не ў тым, што адна з гэтых форм — эгалітарызм і элітарнасць — наклейваюць метку «непаўнавартаснасці» ці «перавагі», а ў тым, што іх тонкая раўнавага падтрымлівае рацыянальную аснову. У канчатковым рахунку, ніхто не хацеў бы, каб палітыкай кіравалі выключна эгалітарныя з «вуліцы» альбо элітарныя філосафы вышэйшыя ад чалавечых мас. Гісторыя правярае шмат такіх выкідышных выпадкаў — ад ідэалістычных канцэпцый Платона да досведу французскай ці бальшавіцкай рэвалюцый.

Толькі гэтыя прыклады паказваюць надзвычайны антаганізм абедзвюх гэтых фармацый. Рацыянальнай асновай іх узаемнага функцыянавання ў чалавечым свеце, здаецца, з'яўляюцца ... зносіны. Камунікацыя: абмен словамі, думкамі, сумневамі, прыярытэтамі і мэтамі. Гэта дрэнная камунікацыя падзяляе людзей на эліты і эгалітарную большасць. Калі цяперашняя эліта зачыняецца ў вежах слановай косці, альбо ў герметычнай, недаступнай звычайнай мове, чалавечыя масы інстынктыўна адмаўляюць свой аўтарытэт і звяртаюцца да сваёй прымітыўнай інтуіцыі. Гэта прыводзіць да іх агрэсіі супраць элітаў і іх ліквідацыі. З часам з эгалітарнага натоўпу выходзяць новыя эліты. І так кругаля.

Палітыка з'яўляецца часткай чалавечай рэчаіснасці. Яна заснавана на людскіх масах, але не без уплыву актуальных элітаў. Іншая справа, ці яны асвечаныя, аўтакратычныя, суперажывальныя, адкрытыя для людзей ці інтравертыўныя, саманадзейныя, нарцысцкія. Бывае, што палітычныя эліты не змогуць ісці ў нагу з масамі. Гэта датычыцца і «вучонай» медыцыны, якая закрываецца сваёй герметычнай мовай.

Медыцынская методыка вуду мне не чужая. Паколькі я быў анемічным дзіцём, мае бацькі часта адпраўлялі мяне да бабулі ў вёску. Малако ад каровы, свежае паветра, свежасць здаровай прыроды ўзмацнялі маю слабую сілу. Яны не ведалі, аднак, што мая бабуля, па прапанове мясцовых шаптух, штодня падавала мне настойку з іржавых цвікоў. Канешне, у сакрэце перад маім дзядулем, які тросся над кожным цвіком, якіх тады было мала. І я паздаравеў. Але ж хіба не ад цвікоў!

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Выклікі
## самаўрадавай рэформы

Калі тыдзень назад пісаў я пра камунікацыйныя клопаты і шанцы на дафінансаванне пасажырскага транспарту з бюджэту дзяржавы, то аказалася, што самаўрады маюць тэрмін на падачу прапанаваных аўтобусных маршрутаў толькі цягам гэтага месяца. Значыць, ужо ў верасні даведаемся хто атрымаў падтрымку і ці ў ліку ахвотных атрымаць яе будуць самаўрады з нашых выключаных у камунікацыйным плане гмін і паветаў. Менавіта гэта нашы войты, бургамістры, старасты і маршалкі са сваімі радамі з'яўляюцца зараз нашымі прадстаўнікамі, якія рэалізуюць свае планы і нашы грамадзянскія патрэбы. Рэальнасць, аднак, вельмі часта прыносіць расчараванне.

Пішу пра ролю самаўрадаўцаў невыпадкова, бо ў гэтым годзе прыпадае дваццатая гадавіна ўвядзення з 1 студзеня 1999 года адміністрацыйна-палітычнай рэформы ў Польшчы. Рэформа ўвяла трохступенную сістэму адміністрацыйнага дзялення краіны, ствараючы паветы, якія разам з гмінамі і самаўрадавымі ваяводствамі стварылі новую грамадска-палітычную рэчаіснасць краіны. Узнікла шаснаццаць урадава-самаўрадавых ваяводстваў і трыста пятнаццаць паветаў. Адначасна памяншылася колькасць ваяводстваў з сарака дзевяці да шаснаццаці. Здавалася б, што такая круглая дата і тыя два дзясяткі гадоў з'яўляюцца добрай нагодай для дыскусіі палітыкаў пра поспехі і паразы такой мадэлі самаўрадавага жыцця. Ад самога пачатку найбольш спрэчным было аднаўленне паветаў — звяна, якое стала чарговым месцам працы перш за ўсё для самых партыйных актывістаў лакальнага маштабу. Прытым паветы пераранялі важныя кампетэнцыі гмін, напрыклад у галіне асветы ці аховы здароўя. Выбарчая кампанія, якая праходзіць зараз у Польшчы, натуральным чынам павінна пра гэта гаварыць, а ўсе партыі, на маю думку, павінны зрабіць ацэнку самаўрадаў і выказаць сваё стаўленне на гэты конт. А тут поўная цішыня, затое ў самым разгары ідэалагічныя сваркі. Відаць, усім партыям непатрэбны аніякі закалот з самаўрадавымі зменамі. Не трэба быць вялікім знатаком гэтай сістэмы, бо простым вокам відаць, што гміны і паветы, не толькі ў маштабе Падляшскага ваяводства, але і ўсёй Польшчы, жывуць у даўгах, якія не дазваляюць на аніякія ініцыятывы з уласнымі грашыма. Таксама дэмаграфічная сітуацыя паказвае выразна, што абвяшчоценне нашай усходняй сцяны раней ці пазней прымусіць улады да аб'яднання некаторых гмін і паветаў у большыя адзінкі. Але калі пра тое зараз не падумаць, то ў будучыні клопаты будуць яшчэ большымі.

Калі над самаўрадамі цішыня, то літаральна ў апошніх днях з'явілася інфармацыя, што, мабыць, праз дзесяць-дваццаць гадоў можа будзе патрэба ў ліквідацыі аж чатырох ваяводстваў. У чым жа тут уся інтрыга?

Адказ зусім просты — у дэмаграфіі. Паводле Галоўнай статыстычнай управы ў 2019 год Польшча ўвайшла з 38,4 млн. насельніцтва. Найбольш людзей пражывае ў Мазавецкім ваяводстве — 5,4 млн. і Шлёнскім — 4,5 млн. Найменш насельніцтва налічвае Апольскае ваяводства — 986,5 тысяч і Любушскае — 1,014 млн. З прагнозаў статыстычнага ведамства вынікае, што праз трыццаць гадоў колькасць насельніцтва нашай краіны зменшыцца аж на 4,5 млн. і ў 2050 годзе складзе прыблізна 33,7 млн. грамадзян. А лік насельніцтва ў чатырох ваяводствах зыдзе ніжэй мільёна. Згаданае Апольскае ваяводства зыдзе да 745 тысяч, а Любушскае — да 879 тысяч. Да іх далучацца Свентакшыскае (977 тысяч) і наша Падляшскае (982 тысячы) ваяводствы.

Адным словам, палітыкі ад праблемы не ўцякуць. Хочаш не хочаш, але нанова трэба прагледзець дэмаграфічна-эканамічную сітуацыю кожнай адміністрацыйна-самаўрадавай адзінкі, бо многім пагражае не толькі камунікацыйнае, але і эканамічна-грамадскае выключэнне. Можна разумець нервы нашых самаўрадаўцаў, якія нават слухаць не хочуць пра пагрозу і патрэбу дзеяннаў наконт інтэграцыі ва ўзбуйненыя адзінкі. Але чакаць у маразме закрыцца дзяржаўнымі органамі гэта ж таксама не выхад.

**Яўген ВАПА**

# «Ператоча-2019»

**У час XVII Міжнароднага фестывалю Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2019», які 26 і 27 ліпеня ў Белавежы арганізаваў Фонд «Царкоўная музыка» з Гайнаўкі, у супрацоўніцтве з Белавежскім асяродкам культуры і Лясным тэхнікумам у Белавежы, калектывы прэзентавалі беларускі, польскі, яўрэйскі, цыганскі, літоўскі, расійскі і ўкраінскі рэпертуар.**




З казацкай праграмай выступіў калектыў «Рада» з Гродна (Беларусь)

фота Фонда «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы



Яўрэйскі хор «Цліль» з Варшавы



Гуцульская капэла «Сэрпанок» з вёскі Печаніжын Каламыйскага раёна Украіны



Танцавальны калектыў «Падляшскі вянок» з Беластока

фота Фонда «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы



— У час фестывалю «Ператоча» прэзентуем культуру нацыянальнасцей, якія жылі ў рэгіёне Белавежскай пушчы. У галоўным жылі тут беларусы і ў час «Ператоча» заўсёды многа месца адводзім беларускай культуры. Сёлетнія ўдзельнікі фестывалю прэзентуюць беларускую, польскую, яўрэйскую, цыганскую, літоўскую, расійскую і ўкраінскую культуры. Да ўдзелу ў фестывалі запрашаем штораз новыя калектывы, — сказаў старшыня Фонду «Царкоўная музыка» ў Гайнаўцы Мікола Бушко.

XVII Міжнародны фестываль Белавежскія мастацкія інтэграцыі «Ператоча-2019» адкрылі Мікола Бушко і старшыня Рады Белавежскай гміны Уладзімір Валкавыцкі. Ганаровы патранат над фестывалем ажыццяўляў маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі. Сёлетняму фестывалю паспрыяла цёплае надвор'е, дзякуючы чаму сабралася многа публікі. Раней удзельнікі «Ператоча» на адмысловых конных вазах ездзілі па Белавежы са спевам і музыкай і такім чынам запрашалі жыхароў на канцэрты. Так было і на другі дзень мерапрыемства. Журналіст Радыё Рацыя Радаслаў Дамброўскі ўдала вёў «Ператоча» на польскай і беларускай мовах, якімі карыстаецца мясцовае насельніцтва і на якіх друкуюцца фестывальныя плакаты. На другі дзень першым выступіў беларускі калектыў «Ручаёк» з Белавежы, якім кіруе Марк Зубрыцкі, дырэктар Белавежскага асяродка культуры.

— Белавежскі асяродак культуры з'яўляецца суарганізатарам «Ператоча», якое цікавае не толькі турыстам, але і жыхарам Белавежскай гміны. Наш «Ручаёк» павялічваецца і цяпер налічвае 17 чалавек. Падрыхтавалі мы новы рэпертуар, паколькі рыхтуемся выдаць другі кампакт-дыск. Аснова нашага рэпертуару — беларускія народныя песні ў маёй аранжыроўцы, прыстасаваныя для выконвання пад музыку нашай невялікай капэлы. Я састаўляю акампанемент на акардэоне, Эва Кот іграе на скрыпцы, Себастыян Байко — на гітары, а Марыян Руско — на тамбурыне. Рыхтуючыся да выдання новай кружэлкі, я запрапанаваў Паўліне Скепка (дырыжору хору леснікоў Белавежскай пушчы), каб папрацавала над эмісіяй голасу нашых спевакоў. Рэзультаты гэтай работы ўжо бачны, — сказаў Марк Зубрыцкі.

Першым выканаўцам фестывалю быў беларускі дзіцячы танцавальны калектыў «Падляшскі вянок» з Беластока. Калектыў існуе з 2015 года і дзейнічае пры Аб'яднанні «АБ-БА» ў Беластоку.

— Наш калектыў працуе ўжо чацвёрты год. Цяпер у ім займаецца 47 дзетак у дзвюх групах — малодшых і старэйшых танцораў. Дзейнічаем з вялікай падтрымкай і дапамогай бацькоў. Мы цяпер стварылі сваю пастаянную праграму. Сёння мы станцавалі жартоўны танец «Юрачка», дзіцячы танец «Дударыкі», а таксама славутую беларускую «Лявоніху», — расказала мастацкі кіраўнік танцавальнага калектыву «Падляшскі вянок» Аксана Прус, харэограф і інструктар беларускага народнага танца і балета.

Вучні Пачатковай школы № 4 імя Сібіракоў у Беластоку, якія займаюцца ў танцавальным калектыве «Падляшскі вянок», выказалі ўдзячнасць свайму мастацкаму кіраўніку Аксане Прус за атмасферу ў калектыве і выявілі радасць, што навучыліся многім народным беларускім танцам, з якімі выступаюць перад публікай.

— Мы здаўна хацелі стварыць пры нашай школе танцавальны калектыў і былі вельмі рады, калі Аксана Прус прыйшла да нас і сама запрапанавала, што можа займацца з нашымі дзяцьмі ў танцавальным калектыве. Наш калектыў прымае ўсіх ахвотных вучняў школы № 4 і дашкольнікаў садка № 14 у Беластоку, якія вучацца беларускай мове. Дзякуючы Аксане Прус, за чатыры гады нашы дзеці вывучылі многа беларускіх народных танцаў і паказалі іх на 55 канцэртах, — заявіла старшыня Аб'яднання «АБ-БА» Уршуля Іванюк.

Займальна і на прафесійным узроўні танцавалі члены калектыву песні і танца «Славянкі» Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве, удзельнікі Падляшскай актавы культур.

— Калектыў «Славянкі» быў заснаваны ў 1959 годзе Здзіславам Вагнерам і дзейнічае пры Кафедры славянскай філалогіі Ягелонскага ўніверсітэта. У нашым рэпертуары побач польскіх народных песень і танцаў маюцца песні і танцы ўсходніх і паўднёвых славян. Мы ў Белавежы ўпершыню і нас захапіла Белавежская пушча. Цікава было паглядзець выступленні танцавальных калектываў дзетак і моладзі. Наш рэпертуар з песнямі і танцамі славян сугучны з ідэяй сённяшняга мерапрыемства, — распавяла кіраўнік «Славянак» Марта Вольф-Здзеніцкая.

Яўрэйскі хор «Цліль» з Варшавы выступіў з рэпертуарам на мовах іўрыт і ідыш, якія да вайны былі прысутныя ва ўсходняй частцы Рэчы Паспалітай, дзе побач славянскіх нацый жылі яўрэі. Займальна польскія песні і танцы прэзентаваў калектыў «Клюмпэ» з Пуньска і калектыў «Цыганскія сэрцы» з Ігрылаў. Займальна беларускія песні праспявалі дзяўчаты з калектыву «Аморфас» з Сямятыч, якім кіруе Галена Шчыгол. У рэпертуары калектыву «Немаральная прапанова» з Беластока таксама былі беларускія творы. Казацкую праграму паказаў калектыў «Рада» з Гродна (Беларусь). Калектыў славянскай музыкі «Гай» з Беластока спяваў песні на беларускай і іншых славянскіх мовах.

— Я раней прыязджаў на «Ператоча» з калектывам «Калінка», у якім толькі беларускі рэпертуар. Хаця «Гай» гэта калектыў славянскай музыкі, то ў нас найбольш песень на беларускай мове, якія будзем тут выконваць. У Белавежы вельмі добрая атмасфера да выступаў. Нам цікава заспяваць перад публікай, якую ў вялікай ступені састаўляюць турысты розных нацыянальнасцей, — заявіў музычны кіраўнік калектываў «Гай» і «Калінка» Марыюш Харужы.

Арыгінальным атрымаўся выступ гуцульскай капэлы «Сэрпанок» з вёскі Печаніжын Каламыйскага раёна Украіны. Яны ўдала прэзентавалі інструментальную музыку, а таксама акампанавалі спявачкам.

— Мы з жонкай арганізуем культурную дзейнасць у доме культуры ў Печаніжыне, які абслугоўвае жыхароў вёсак, у якіх зараз жыве сямнаццаць тысяч чалавек. Мы папулярызуем гуцульскую культуру, якая з'яўляецца часткай украінскай. Зараз нам цікава паглядзець выступы іншых калектываў, — распавялі кіраўнік дома культуры ў Печаніжыне і заадно музычны кіраўнік капэлы Іван Яўдошняк і яго жонка, музычны кіраўнік вакальнай групы капэлы і яе спявачка Марына Яўдошняк.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## На рэабілітацыйным аддзяленні — 2019 (4)

Пятніца, 10 траўня, на рэабілітацыйным аддзяленні, апрача візіту брыгады Беластоцкага тэлебачання, была багата ў іншыя падзеі. У нашай палаце № 11 пасяліўся новы пацыент, Мар'ян. Ён заняў месца датэрмінова вызваленае Уладкам з Бельска. А на паверсе абсталёўвалі кабінет новаму ардынатару. Стары не дазваляў пасяліцца ў сваім кабінеце наследніку. Ад мінулага года патаемна шапталі аб змене ардынатара. Гайнаўскі шпіталь папаўняюць кваліфікаваныя кадры. Дагэтуль пасаду ардынатара выконваў лекар-спецыяліст па медыцынскай рэабілітацыі. Зараз назначаны доктар медыцынскіх навук, спецыяліст-неўролаг.

У суботу, 11 траўня, а 3:40 раніцы разбудзіў мяне звонкі голас: «Увага, увага — супрацьпажарная трывога». Не разумеючы ў чым справа, заспаным зрокам акінуў палату. Нічога не прыкмеціў — ні дыму, ні агню. Кампаньёны бестурботна прадаўжалі ранішнюю дрымоту. У палату заглянула дзяжурная медсястра.

— Дзе пажар? — пытаю.

— Хтосьці на калідоры папяросу не пагасіў, — пачуўся ціхенькі голас медсястры. — Фальшывая трывога...

«А што было б, калі б сапраўды ўзнік пажар», — мільганула думка.

Пасля снедання падаўся я на працэдуры. Заняткі ў гэты дзень праводзіліся з восьмай да дзясятай гадзіны для шпітальных пацыентаў. Прышлым з горада па суботах працэдур не прапісвалі. Пасля заняткаў Мірак з Рыськам падаліся на перадабедзенны шпацыр, а мы з навічком засталіся ў палаце. Да нашай кампаніі далучылася дзяжурная лекар-неўролаг. Абследавала Мар'яна, затым падышла да мяне. Са спадарыняй неўролаг я наладзіў сардэчныя міжлюдскія адносіны. Заўсёды, калі заходзіла ў палату і засякала мяне пры камп'ютары, казала: «Пакіньце камп'ютар. Шкада здароўя». Я шанаваў спадарыню доктар і як медыцынскага спецыяліста, і за людскую спагадлівасць і добразычлівасць. Суботні пасляабедзенны адпачынак правёў я з Ірэнай, аглядаючы альбом камп'ютарных здымкаў.

У нядзелю наведалі мяне дачка Аліна з унучкай Кінгай. Папоўнілі маё шпітальнае харчаванне, памянялі бялізну і падаліся ў Кузаву. Неўзабаве адазваўся мабільнік. «На вёсцы ад вашага дома адключылі электраток, — усхвалявана гаварыла Аліна. — Халадзільнік з прадуктамі размарожаны. Куды дзяваць?». Пасля Аліна паведаміла: «Добразычлівыя людзі дапамаглі». Дочкі размеркавалі прадукты да сваячкі дачкі Ірэны. Дамашнія праблемы зварухнулі маю нервовую сістэму. Бяссонныя ночы, павышаны ціск крыві.

У сераду, 15 траўня, быў праведзены дзяжурны медагляд з новым ардынатарам у прысутнасці старога ардынатара і медперсаналу. Ці штосьці зменіцца ў працы кіраўніцтва рэабілітацыйнага аддзялення?.. На гэтае пытанне цяжка зараз адказаць.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## Прыпыначныя навесы

Зараз у Гайнаўцы пабудавалі прыгожыя навесы на прыпынках аўтобусаў грамадскага транспарту. Яны на вуліцы 3 Мая. У самым цэнтры горада збіраецца найбольш пасажыраў і тут — непадалёк касцёла — прыдалося б іх больш — па два побач сябе на адным і другім баку дарогі. Месца для такіх малых інвестыцый паабапал вуліцы 3 Мая дастаткова. А якая была б выгада пасажырам. Цяпер мала месцаў на лавачцы пад дашкам.

І другая справа. Ужо пара паклапаціцца пра забруджаны прыпыначны навес на вуліцы Стэфана Баторыя. Ён перад мастком на рачулцы Лясная. Тут калі хуліганы не паб'юць адну, а то і дзве сценкі, то пабрудзяць яго клеем або фарбай. А памыць няма каму. Раней тут жа на другім беразе рачулкі не аднаму макету зубра збівалі рогі. Стаялі тры зубры. Астаўся адзін. Над ім пакуль што не здзекуюцца. Памілавалі? Мабыць, адпужвае іх маніторынг. **(яц)**

# Чакала хата ў Тапарках

Якія ж былі маляўнічыя калісьці Тапаркі, абсеяны збожжам размаітым, — пішуць яшчэ на розных сайтах пра вёску. Далей яны маляўнічыя, абсеяны збожжам, пад старадаўнімі дрэвамі. І сёння Тапаркі не здаюцца. Тут даўно зрабілі стаўку на гадоўлю кароў і яшчэ цяпер раніцай і перад вечарам гаспадары гоняць іх табунамі праз вёску. Гаспадаркі ў сямідзясятых і васьмідзясятых гадах мадэрнізаваліся тут хуткімі тэмпамі дзеля аблягчэння працы пры гадоўлі кароў і вытворчасці малака. Сяляне куплялі дадатковыя апараты і тэхніку для механізаванай уборкі сена. Яшчэ і ў дзевяностых гадах збожжа ў Тапарках касілі перш за ўсё касілкамі і вязалі яго ў снапы традыцыйнымі перавясламі — пісаў Алік Мароз, які парадніўся з Тапаркамі — згэтуль яго жонка. І сёння на ўспамін таго гарачага жніўнага часу арганізуюцца дажынкі, калі на заканчэнне жніва ставілі «кветку-перапяліцу», з апошняй жмені каласоў, аздобленую палявымі і агароднымі кветкамі, гронкамі спелай арабіны, з хлебам ды соллю — «для зайчыка». Самы смачны быў той хлябок, які прыносілі малым дзеткам, пачаставаўца — і яны будуць расці здарова, як тая збажына ў полі. На імпрэзу прыходзяць усе прыхаджане, госці і ўсе, хто могуць сюды прыбыць, таксама новыя жыхары вёскі, якія тут купілі і адрамантавалі хаткі. На полі стаяць апошнія ляшкі і мэндлі снапоў. Тыя, хто прыязджае сюды жыць, даведваюцца пра гісторыю, былое вёскі, і стараюцца ўключыцца ў жыццё верных зямлі і сваёй традыцыі людзей. І прысутнічаюць на розных «івентах» — святкаваннях вясковых і сямейных. І хаты ў іх не адрозніваюцца ад старых, пад якімі якраз расцвітаюць кветкі, якія тут растуць ад дзесяцігоддзяў. Хіба што паяўляюцца іншыя, падобныя на старадаўнія азіяцкія лілеі, як свойскія «смаліносы» — вось тыгравая, рабая лілея пад хатай з нумарам 32. Пад хатай такое ж рабое кацяня, побач худзенькай, цікава амашчанай мамкі. Яны цяпер вельмі задбаныя — жывуць тут усё лета гаспадары.

— Знайшлі мы былі ў хаце дошку «Солтыс», яшчэ з даваеннага часу, — упускае нас у хату гаспадыня Івона. Варшавянка — так пра яе кажуць тапарчане. — Аднавілі яе. А «Вітаем у Тапарках у Алёшкі» зрабіў нам сусед. Тут мы цяпер Алёшка і Ілёнка. Аляксандр і Ілёна. Файне. Пекна. Вось увахозім на вялікую хату. Так як павінна. Кажуць, тут свая магія месца.

— І магія людзей, якіх прыцягваюць такія людзі, — кажа Юрка Раецкі, родам з Шымак, католік, які ўжо ўмее гаварыць на ўсіх гаворках Падляшша. Працуе ён у Дзіцячым клінічным шпіталі, мноства з жыцця перапрацаваў у тэлекамунікацыі, і вось на гэтых «спалучэннях» працуе як фатограф «Магіі Падляшша». Так і здымае людзей, дамы, звяроў, людзей, і бачыць тую касмічную лучнасць паміж імі. І вось з ім прыйшлі мы да хаты, якая чакала і нас, чакала і Алёшку з Ілёнай, якія жывуць тут, на старым, прыжытым перад імі беларусамі, намоленым праваслаўем месцы...

— І кветкі пасадзіла я такія, якія тут растуць у суседзяў, якія раслі тут можа і сто гадоў. Толькі мы ўвайшлі на падворак і адчула я нейкія пазітыўныя хвалі. Так як у родным месцы, быццам мы тут былі ад заўжды. А ты што адчула? Можа што я «золза» і «ведзьма», — смяецца гаспадыня. — Вось мы пабылі на «перапяліцы», раней былі на «пячэнні хлеба». Быццам дакрануліся да старадаўнасці тутэйшай, у гасцях у сваякоў. І вельмі любім усе песні тутэйшыя, зразумелыя яны для нас, і так кранаюць сэрца. Часам такога слова ў польскай мове і няма. Духоўнасць, уражлівасць. Традыцыя. Я, знайшоўшы з маім чалавекам хату, пачала капацца і ў сваіх каранях. І дайшла да таго, што мяне сюды цягнула — у ліку маіх сваякоў з'яўляюцца людзі з Гайнаўкі.

— Вельмі падабаюцца імпрэзы, якія ладзяць жыхары ў Тапарках і ваколіцы. Якія цудоўныя жанчыны дзейнічаюць у Гуртку вясковых гаспадынь, — заўважае Аляксандр, абарочваючы ў далонях таблічку з «солтысам». — А ты пачытай свой верш, кажаш, тут такое натхненне на людзей находзіць.



**_Тапаркі — вёска ў Падляшскім ваяводстве, у Гайнаўскім павеце, у Кляшчэлеўскай гміне. Праваслаўныя жыхары належаць да парафіі святога Дзмітрыя ў Саках. Жыхароў 111 чалавек._**



— «У Тапарках з хаты Алёшкі і Ілёны ніхто не выйдзеназахаплёны. Бо тут атмасфера і натхненне чакае кожнае стварэнне. Тут нават коцікі шматкалёрныя вітаюць на парозе людзей непаўторных». Бачу, што ваша хатка адноўленая з вялікім сэрцам, з доглядам кожнай дэталі. Вы проста нічога ў ёй не папсавалі. Мог бы ваш дом як узорны прымаць удзел у конкурсе на найлепш захаваны помнік падляшскага драўлянага дойлідства. А новыя набыўцы старадаўных хат-помнікаў, рыхтуючы іх для жылля ці для летняга адпачынку, свядома ці несвядома руйнуюць іх, замяняючы вокны пластыкам, перастаўляючы сцены, знішчаючы печкі...

— Ой, да конкурсу мы не замахваемся... Не пасмеем. І не думалі, што маглі б прыняць удзел у такім прэстыжным конкурсе. Мы толькі шчыра хату аднавілі, захоўваючы ўсе яе каштоўнасці.

— Алёша сам вокны ладзіў, счышчаў з іх слоі старой фарбы. Вядома, відаць, што яны немаладыя, але як прыгожа! — усміхаецца Ілёна. — Вокны арыгінальныя, свяцілі людзям шмат пакаленняў. Мы на гэтую хатку трапілі зусім выпадкова. Але, відаць, трэба было, каб мы заняліся ёю, задбалі, і каб стала яна нашым домам.

— Праўду кажучы, мы шукалі дому дзесяць гадоў, — кажа Аляксандр. — Столькі гадоў. Былі розныя прапановы, па ўсёй Польшчы. Шукалі мы свайго месца на зямлі. Мелі ўжо амаль «дабіты торг», у Быстрым. Вярнуліся мы з канікул, былі ўжо настроены, што маем новую хату, што вось заплацім, але пазваніла кабета, якая заапекавалася хатай, і сказала, што хтосьці быў хутчэйшы і мабыць багацейшы. І адразу ён заплаціў грошы. Мне ў гэты момант апусціліся рукі. Але ўвайшоў у інтэрнэт: вось пабачу яшчэ. І ўбачыў Тапаркі. Кажу Ілёне, якая да ўсяго падышла скептычна, што будзе наша новая хата. Памятаю, надвор'е стаяла тады паганае, марасіў пануры дождж. Але толькі перакрочылі мы бронačку, глянулі, і сталі як умураваныя. Хата нас чакала! Гэта была яна, не іншая! Спачатку думалі купіць хату дзесьці ў бязлюдным месцы, у лесе, каб мець адпачынак ад мітуслівага жыцця. Але тут яно, тое жыццё: якраз каляровае і крыху мітуслівае, сярод жывых, актыўных, прыгожых людзей. Сяброў, суседзяў, як сваякоў. Вельмі прыгожых людзей, сярод якіх жывеш таксама прыгажэй, больш асэнсавана.

— Мая суседка Верка звоніць да мяне, калі мы ў Варшаве: «Як у вас справы? Усё добра. Хата стаіць. Нікуды не пойдзе ад нас, і вы ад нас не пойдзеце». Я тут свая. Мая бабуля Рачынская была з Падляшша. У Гайнаўцы жыве сям'я з боку бабулі. Цётка Рачынская па мужу Зінова. Значыць, усе свае. Быў у мяне час пошукаў і стварання свайго генеалагічнага дрэва, пачала я капацца ў сваіх каранях. Узяла, паехала. Бывала ў маёнтку ў Вайтове каля Ласіц яшчэ як дзіця, памятала як усё тое выглядала, памятала імёны дзядзькоў і стрыяў.. Знайшла ў інтэрнэце цётку і ўсё спраўна склалася, улеглася. Я адчула, скуль я, адкуль мой род. З Усходу. Калі я прыехала ў Тапаркі, зразумела, што гэта вось маё месца на зямлі. У гэтым драўляным доме з душой, з іконай, якая яго пільнавала для нас. І ўсё. Гаспадар даў нам тыдзень для роздуму, ці хочам гэты дом. Былі ў чацвер, а ў нядзелю прыехалі таргаваць цану. У Чаромху. Афармілі ўсе дакументы. Была праблема — тут было трох уласнікаў. Але згодных. Была мама і двое дзяцей. Мы ім таксама спадабаліся.

— Калі мы ішлі да натарыуса, я памагаў Нюры (гаспадыні) выйсці з самахода, бо гэта старэйшая жанчына. Узяла мяне яна пад руку і кажа: «Ну, дык мы ўжо амаль радня». Парадніла нас хата з вельмі добрымі, людскімі, сардэчнымі людзьмі, якія ведалі, што мы дамо імя ёй як роднай, што працягнем яе жыццё. Цяпер мы сюды прыязджаем калі толькі можам, летам, зімой, ва ўік-энды. Кожны тыдзень. Працуем у Варшаве. Ды ніякія маразы і завейкі нам не страшныя. Дабіраемся да сябе.

— «Топім» у печцы, у пліце, — кажа ўжо па-тутэйшаму Ілёна. — І цёплы дух ідзе па хаце, грэе. Добра кажу па-свойму?? А табе добра пісаўся верш?

Упісаліся Аляксандр і Ілёна ў Тапаркі. Хата стаіць, як новая. Але ані міліметра ў ёй не змянілі людзі, якія ў ёй не чужыя.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Дружная сям'я

*Размова з **Аленай СЯЧКО**, мастацкім кіраўніком і дырыжорам Заслужанага любіцельскага калектыву Рэспублікі Беларусь — Аркестра народных інструментаў Лідскага дзяржаўнага музыкальнага каледжа.*



**— Скажыце крышку пра Ваш ансамбль; бачу ў ім вельмі маладых людзей, адкуль іх набіраеце?**

— Кірую я калектывам болей дзесяці гадоў. Дарэчы, нашаму калектыву сёлета спаўняецца сорак пяць гадоў; калектыў быў створаны з моманту існавання вучэбнай установы. У нашым калектыве ў прынцыпе навучэнцы і настаўнікі нашага Лідскага музыкальнага каледжа. Мы выступаем у многіх краінах, удзельнічаем у розных міжнародных конкурсах. Вось, для прыкладу, літаральна тыдзень назад мы ўдзельнічалі ў міжнародным конкурсе аркестравых калектываў у Санкт-Пецярбургу, дзе атрымалі першае месца, сталі лаўрэатамі першай прэміі сярод усіх удзельнікаў.

**— Віншую.**

— Дзякую. У ліку гэтых аркестраў былі не толькі аркестры народныя, былі сімфанічныя, былі духавыя і іншыя. Былі прадстаўнікі розных краін — Ізраіля, Расіі, Украіны і г.д. І сюды нас запрасілі даўно, ужо ў сакавіку. У Падляшскай актаве культур мы прымаем удзел упершыню. І, дарэчы, у Польшчы мы ўпершыню, хаця з'ездзілі мы ўжо палову Еўропы. Мы былі ў Італіі некалькі разоў, былі ў Охрыдзе ў Македоніі, у Будапешце, былі ў Албаніі, у Бельгіі. У Францыі шматразова прымалі ўдзел у студэнцкім фестывалі ў горадзе Бельфур. [Вікіпедыя: „Штогод у Бельфуры праводзіцца міжнародны фестываль універсітэцкай музыкі *Festival International de Musique Universitaire* (FIMU). У маі з розных краін у горад з'язджаюцца да 2500 выканаўцаў, галоўным чынам студэнтаў".]. Аркестр вельмі многа канцэртуе. Мы, вядома, выступаем і ў сябе дома, мы многа іграем нашым жыхарам. Вялікае месца ў нашай працы займаюць выступленні ў школах і палацах культуры нашай Гродзенскай вобласці, бо мы лічым, што гэта быццам нашы кадры, якія да нас прыйдуць і таму мы іх змалку знаёмім з нашым калектывам, каб да нас прыходзілі малады таленавітыя людзі, з якімі вось так можна выступаць і канцэртаваць.

**— А Вашы творы базіруюцца на творах якіх кампазітараў, хто робіць іх аранжыроўку для Вашага адмысловага аркестра?**

— У рэпертуары нашага калектыву вельмі многа разнастайных твораў. У нас і класічныя творы, мы выконваем і музыку замежных кампазітараў 17-18 стагоддзяў; і Вердзі ў нашым рэпертуары, і рускія кампазітары, і Чайкоўскі, і Грыг, ну — многа розных. Апрача гэтага агромную страніцу ў нашым рэпертуары займаюць творы менавіта нашых беларускіх аўтараў, нашых беларускіх кампазітараў, бо я лічу, што наша беларуская школа з'яўляецца адной з самых яркіх, самабытных школ. Такія кампазітары як Генадзь Ермачэнкаў гэта ўвогуле адкрыццё для Еўропы; калі мы ўпершыню выканалі яго „Паэму", слухачы не маглі акрэсліць што гэта за аўтар, дзе мы ўзялі — настолькі быў цікавы гэты твор. У творах кампазітараў нашай беларускай школы як бы пераплятаюцца народныя матывы, як і сучасныя кампазітарскія знаходкі, нейкія незвычайныя налажэнні адных інструментаў на другія, тэмбральныя суадносіны; здавалася б тэмбры нейкіх інструментаў не могуць сугучаць, а тут яны злучаюцца. І, канешне, самае галоўнае, што нашы беларускія песні, нашы танцы жывыя ў нас, народныя інтанацыі заўсёды чутны, які б бы кампазітар сучасны не быў. Таму гэта займае асобнае месца. Апрача гэтага мы маем іншых кампазітараў — вось вы чулі ў выкананні нашага саліста твор кампазітара Уладзіміра Зубіцкага, пражываючага ў Італіі, ураджэнца Украіны. Ягоны твор мае загаловак „Пасвячэнне Піяцоле". Пасля смерці Піяцолы ён напісаў гэты твор — фактычна ён з трох частак: спачатку быў канцэрт, пасля ён стварыў спецыяльна такую п'есу дзеля таго, каб можна было зайграць. Ну, многа рознай музыкі іграем, м.інш. апрацоўкі народных рускіх танцаў. Самае цікавае вось, што вы чулі ў нашым выкананні „Барыню"; яе апрацаваў наш беларускі кампазітар Віктар Малых. Мы іграем розную музыку, нам усё цікава, усё што іскрыста, ярка, што цікава і для моладзі, і для публікі.

**— Ну, але канчатковая апрацоўка ўсё ж такі Ваша, бо ў вас адметны склад інструментаў.**

— Ну, не заўсёды. Вядома, аранжыроўкі, канешне, я раблю сама або робяць гэта нашы студэнты разам з выкладчыкамі, для прыкладу некалькі твораў з тых, што мы ігралі. Гэта творы, якія наша моладзь рыхтуе як дыпломныя працы, калі яны канчаюць нашу вучэльню і атрымліваюць кваліфікацыю дырыжора.

**— Адкуль у Вас бярэцца столькі энергіі, столькі цеплыні, як выглядае Ваша праца з калектывам?**

— Я магу сказаць, што моладзь настолькі ўжо ведае мяне, што мне нескладана імі кіраваць, таму што нейкі мой погляд, нейкае выражэнне твару — яны ўжо разумеюць, што я хачу сказаць, што яны павінны зайграць, таму ў нас такая як бы ўзаемная творчая праца. Мне здаецца, што ім таксама цікава разам са мною стварыць творы незвычайныя, яркімі, цікавымі. Я лічу, што дзякуючы нашым выступленням яны мала таго, што аб'ездзілі Еўропу, мы праводзім масу экскурсій, каб даведацца многа новага. Мы між сабою — такая вялікая і дружная сям'я, у якой, як гаворыцца, бываюць і складаныя моманты. І ў выніку, калі мы выходзім на сцэну, мы адно цэлае.

**— Як Вам падабаецца Польшча?**

— Вельмі нам Польшча спадабалася. Я і не ведала, што Беласток такі выдатны горад. Хаця мы недалёка, але я тут упершыню. Мяне ўразіла тое, што тут вельмі многа зелені, вельмі многа кветак, прыгожы парк побач палаца. І будынкі. Мне асабліва спадабалася тое, што палякі любяць сваю гісторыю, любяць сваіх продкаў, шануюць і захоўваюць сваю культуру; я ў захапленні ад іх. І прыём знакаміты — арганізатары настолькі ўсё прадумалі да дробязей, што ні пра што не трэба турбавацца. Мне трэба на рэпетыцыю — у мяне куратар, якая ўжо ў пару стаіць і чакае; усё распісана, усё зроблена ў пару, ну, арганізацыя проста ашаламляльная. Адна з самых лепшых, з якімі я мела дачыненне.

**— Вельмі Вам дзякую.**

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



## Пакрыўджаныя лёсам

Да выбараў застаецца няшмат часу. Палітычныя групоўкі мітусяцца і заклікаюць выбаршчыкаў, каб на іх прагаласавалі. Затым рэкамендуюць грамадзянам, кожны сваю, разумеецца, «выбарчую каўбаску». Вядучую ролю ў гэтай справе вядзе Права і справядлівасць. Паколькі ў апошніх парламентарных выбарах сцяганосным лозунгам была праграма «Сям'я 500+», якая дала магчымасць самастойнага праўлення, дык зараз ПіС рэкамендуе патэнцыяльнаму выбаршчыку адны «плюсы». Для прыкладу, у траўні, перад еўрапарламенцкімі выбарамі старшыня ПіС Качынскі «ахвяраваў» пенсіянерам у падарунку трынаццатую пенсію. Гэтай дабрадзейнасцю пакарысталася 9 мільёнаў 700 тысяч чалавек. Дзяржаўны бюджэт выдаў на гэта 10,7 мільярда злотых. Паколькі не абавязвалі пры тым крытэрыі падаходнага прыбытку, дык палучку ўзялі найбольш патрабуючыя, як і гэтыя з высокімі пенсіямі. Чарговым прыкладам пісаўскай рыторыкі з'яўляецца праграма «500+ на першае дзіця», якая абавязвае ад ліпеня. Для гэтай справы прызначана больш за 31 мільярдаў злотых, а пакарыстаюцца бацькі 6,8 мільёна дзетак. І ў гэтым выпадку не абавязваюць ніякія крытэрыі. Нованароджанае дзіцятка хопіць зарэгістраваць у загсе, ды прад'явіць пасведчанне ў Гмінным асяродку сацыяльнай дапамогі і зразу выплачваюць 500 злотых. А для жменькі асоб з абмежаваннямі, няздольных да самастойнага існавання, каб атрымаць «500+» ставіцца крытэрый падаходнага прыбытку да 1100 зл. У каго пенсія або падаходны месячны прыбытак перавышае назначаную квоту, гэты дапамогі не атрымае. Ці гэта справядліва? ПіС ганарыцца, што дапамагае найбольш пакрыўджаным лёсам, хваравітым і няздольным да самастойнага існавання старэч. Ці гэта не крывадушнасць?..

У пятніцу, 19 ліпеня, праходзіла ў парламенце галасаванне над праграмай «500+ для няздольных да самастойнага існавання сеніёраў». Сенатары Грамадзянскай платформы ў час пасяджэння прад'явілі папраўку, каб крытэрый з 1100 зл. павысіць да 2250 зл. — да мінімальнай краёвай платы. Папраўку пісаўская большасць адкінула. У Сейме папраўка Грамадзянскай платформы «памылкова» была адобрана галасамі 173 за і 133 супраць. ПіС зараз тлумачыць, што сорак іхніх дэпутатаў памыліліся. Маршалак Сейма Кухцінскі зразу аб'явіў трохмінутны перапынак у пасяджэнні. Зараз ставіцца пытанне: ці Права і справядлівасць застанецца пры адобранай дэпутатамі папраўцы ПС, ці верне да паўторнага разгляду ў Сенат? Калі браць пад увагу другі варыянт, дык што можна будзе сказаць выбаршчыкам аб пісаўскай веragоднасці, на якую зараз спасылаецца на сустрэчах з выбаршчыкамі лідар ПіС Качынскі?

**Уладзімір СІДАРУК**

## Беласток у кветках

У Беластоку шмат маладых дрэўцаў і кветак. У мінулым годзе пасадзілі 200 саджанцаў, у тым ліку найбольш ліп, чатыры тысячы былін і 5,5 тыс. кустоў розных раслін.

Цяпер на скрыжаваннях вуліц з кругавой развязкай і ў парках ды ў стоячых пасудзінах для вазонаў у цэнтры горада на рабатках цвітуць браткі, стакроткі і іншыя кветкі. У пачатку чэрвеня пасадзілі 150 тысяч летніх кветак, між іншым, сурфіній, бягоній заўсёдыквітучых і бальзамінy. У кветкавым агародчыку ў парку Браніцкіх цвітуць гіяцынты, нарцысы і іншыя кветкі. У парку Плянты пасадзілі многа браткаў і жоўтых нарцысаў.

У цэнтры горада, між іншым, па вуліцы Ліпавай і на рынку Тадэвуша Касцюшкі ў вазонах, завешаных на слупах вулічнага электраасвятлення цвітуць бягоніі, фуксіі, сурфініі і пеларгоніі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі

# Квітнеючы Беласток!

Вясной мы пісалі пра раслінна-экалагічны праект квітнеючых лугоў у Беластоку. Задума ажыццявілася і цудоўна змяніла горад. Праўда, спачатку, калі трымала засуха, расліны не хацелі выходзіць з зямлі. Усё адмянілася разам з дажджамі і цёплым летам.

Пры кожным газоне табліца з інфармацыяй і хатка для насякомых. Там між іншым чытаем:

Дзікія лугі — дом і сталоўка для соцень раслін, насякомых, жывёл. Лугі таксама дапамагаюць змагацца са смогам, дзякуючы сваёй будове дзікія расліны лепей чым газоны фільтруюць паветра, прымаюць яго забруджанасць. Дапамагаюць таксама з парніковым эфектам, які з кожным годам становіцца ўсё больш набалелай праблемай. Квітнеючыя лугі выдатна паляпшаюць выгляд горада і падносяць настрой у шафёраў машын, пешаходаў, равараў. Гэта таксама добрая нагода для вывучэння дзікіх відаў раслін, якія апынуліся пад пагрозай знікнення.

Квітнеючы луг мяняецца цягам года, з вясновых далікатных колераў пераходзяць у цёплыя летнія, каб у канцы зарумянець, саспець, прысохнуць. А калі ўсё адцвіце і саспее, луг пойдзе пад касу, аднак у зямлі застанецца насенне і ён сам адродзіцца вясной.



У Беластоку шмат квітнеючых лугоў. Паводле нас самыя прыгожыя і вітальныя выраслі ў квартале Zielone Wzgórza (Зялёныя ўзгоркі). Яны разнавідныя, адны з дзікіх кветак, (мальва, наготкі, васількі, мак, рамонак, мядоўнік, канюшына), са збожжа (авёс, ячмень, жыта, пшаніца), сланечнікаў і рапсу. У цэнтры таксама абсаджаны раслiннасцю дахі і сценкі шкляных прыпынкаў. Яны жывыя, пахучыя. Проста, глядзіш і не можаш адарваць вачэй ад іх звычайнай прыгожасці!

**Зорка**

Фота Ганны Кандрацюк

# «З ветрам у валасах»

Аднойчы ў «Ніве» я прачытала пра конкурс «Мой герой беларус» з нагоды стагадовага юбілею БНР. Я падумала трохі і рашыла напісаць. У кожнага з нас свой герой. Хто для мяне герой беларус?.. Я адразу падумала аб Тамашу Суліме і аб ролі, якую ён адыграў у маім жыцці.

Калі я была маленькай дзяўчынкай, збірала газетныя здымкі з Тамашам. Я ганарылася, што ён такі слаўны, што пра яго пішуць у газеце. Тамаш хадзіў на царкоўны хор, дзе і я спявала. Пасядзела трохі, папрацавала, напісала, зрабіла фотаальбом аб Тамашу Суліме.

У верасні адбылося ўручэнне ўзнагарод. Я заняла першае месца і вельмі гэта мяне ўсцешыла. Якое было маё здзіўленне, калі аказалася што ўзнагарода гэта... ровар!

Я на гэтым ровары езджу на экскурсіі з ветрам у валасах.

**Вікторыя ГАЦЬ,**
Бельск-Падляшскі



# Дзённік

## Сустрэч «Зоркі» (6)

ІІ чэрвеня, аўторак, гадзіна І8:00

Наш сябар Матвей з бельскай «тройкі» расказаў нам пра свой выезд на праект «Erasmus+ Heritage of us», які ладзілі ў Сафіі, сталіцы Балгарыі. На сустрэчу прыехалі школьнікі і настаўнікі з Партугаліі, Латвіі, Турцыі і, вядома, з Польшчы. Увесь тыдзень яны займаліся — танцавалі, спявалі, малявалі велікодныя яйкі, рабілі нацыянальныя бранзалеты і лялькі. Яны мелі таксама нагоду наведаць гэты прыгожы горад. Для Матвея найбольш спадабалася царква Аляксандра Неўскага. Гэта самая вялікая царква ў Балгарыі з прыгожымі фрэскамі і іконамі XIX стагоддзя. Мы спыталі ў яго пра новыя сяброўствы. Для Матвея найбольш спадабаліся дзяўчаты з Латвіі. Ён сказаў, што хацеў бы чарговы раз паехаць на «Erasmus».

(працяг будзе)

Ева Іванюк, Галоўны рэдактар «Бел-News»

# УВАГА КОНКУРС! № 32-19

Напхана пухам,
ляжыць пад вухам.
(П......)

## Загадкі з роднай хаткі

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 25 жніўня 2019 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на загадку № 28: вока. Узнагароду, кашульку з лагатыпам 32 Сустрэч «Зоркі», выйграла Магда Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Залукі ў Гародні

4 чэрвеня вучні са школы ў Залуках паехалі на экскурсію ў Гародню. Аднак паехалі толькі тыя асобы, якія мелі добрыя ацэнкі па беларускай мове, або прымалі ўдзел у журналісцкім гуртку.

Мы ўсе былі захоплены горадам. Пакаштавалі смачных беларускіх дранікаў і пельменяў. Гародню паказаў нам гід Руслан, які расказаў пра гісторыю горада і паказаў нам старыя здымкі, на якіх былі прыгожа апранутыя гарадзенцы.

Ніхто не чакаў, што трэба прайсці 20 кіламетраў, каб зведаць Гародню. Нашы ногі ўжо моцна балелі, але мы дружна пагадзіліся, каб схадзіць яшчэ на адну сустрэчу. Мы вельмі хваляваліся, калі даведаліся, што з намі сустрэнецца лідар гурта «Дзецюкі» Алесь Дзянісаў. У краме «Адметнасць» мы купілі кашулькі з лагатыпам гэтага гурта. Спадар Алесь праспяваў нам некалькі песень. Тады адчувалася, што тое, пра што ён спявае, адбываецца тут і цяпер. Ажно ў нас бегалі дрыжыкі па спіне...

Наступнага дня настаўніцы падрыхтавалі нам сюрпрыз і завялі нас у заапарк.

Вяртаючыся, мы зайшлі ў краму і купілі беларускія ласункі, у тым ліку смачныя сыркі.

Я ахвотна яшчэ вярнуся ў Гародню.

**Патрыцыя Каранкевіч**, «Шэпты з шафы»




# Сустрачанскі апытальнік



**Міхась Сцепанюк** — журналіст, настаўнік, навуковы супрацоўнік.

**1. Сустрэчы «Зоркі», гэта для Вас:**

— Палавіна жыцця.

**2. Любімае слова на беларускай мове:**

— «Есці».

**3. Найпрыгажэйшае месца на свеце:**

— Мадрыд.

**4. Галоўнае правіла журналіста:**

— Добрасумленнасць.

**5. Найцяжэйшая праца для вас гэта:**

— Нічога не рабіць.

**6. Што вас натхняе:**

— Людзі.

*«Бел-News»*

*Лісты з ньюсам*

# Дарагі Міша!

Я на Сустрэчах «Зоркі» ў Новым Ляўкове ад нядзелі 9 чэрвеня г.г. На пачатку мы хуценька выбеглі з машыны і пабеглі заняць наш любімы пакой № 5. Гэта адзін з самых вялікіх пакояў і да таго з купальняй і душам. Адвячоркам мы пайшлі на луг назбіраць кветак і сплялі з іх вянкі. А вечарам сабраліся ў святліцы і спявалі, ажно перасеклі начную ціш. Раніцай мы прывіталі госцю з Варшавы. Да нас прыехала рэдактар Наталля Кандрацюк-Свярубская, якая піша пра падарожжы. У наступны дзень завітаў да нас Міхась Сцепанюк. Ён цікава апавядаў пра падарожжы і іспанскую мову. Яшчэ ў гэты дзень мы паехалі ў Нараўку. Усю дарогу мы спявалі беларускія песні. Мэтай нашай паездкі быў візіт у мастацкую галерэю імя Тамары Саланевіч. Там працуюць выстаўкі ікон Міхала Пякарскага і фатаграфіі Якуба Смольскага. Назад вярталіся новай дарогай праз палі і лясы. У пэўны момант нас пачалі джаліць камары. Мы павымалі свае спрэі і моцна апырскалі адзін аднаго, а пасля пісалі вершы пра камароў і мошку. Праз некалькі дзён я прыеду і ўсё табе раскажу.

Цалую,

**Паўліна Ёдла**, *«Бел-News»*

Міра Лукша

## Крапіва жгучка

Тата трапіў у крапіву,
Задурманіў галаву:
У сонцы ён хадзіў без шапкі,
Ступіў у зелле без аглядкі.
Тату запякло ў каленкі.
Тата сеў у крапіўку з енкам.
Тату запякло ў лыткі,
Бо жыгучка любіць збыткі!
Ані бабкі, ані дзедкі,
Ні бацькі, ні іхні дзеткі,
Вы без шапак не хадзіце,
У Сонца прама не глядзіце,
Не чапайце Крапівы:
З імі лепей быць на «Вы»!

## Польска-беларуская крыжаванка № 32-19

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28-2019:**

Каліна, апалон, мі, грып, сазан, птах, тата, ох, матор, лаўр. Карп, капыт, лапа, Ніл, хор, нос, фанат, за, матыў, сліна.

Узнагароду, аўтаручку, выйграў **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Ruta | SPA | | Pępek | Sukces | |
| | Zapach | | Sto | Granica | | Mapa | | | | Wojownik |
| | Morze | | Mąka | | | | | Ob | | |
| Pieśni | | Mięta / Ząb | | | | | Osa / Tur | | | |
| | | | Żart / Ty | | | | | No | | |
| Wóz / Ruta | | | | | Tuńczyk | | | | | |
| Aby | | | | Groch | | | | | | |

# Новыя вершы
## Жэні МАРТЫНЮК



### Дарогі

На свеце зямным дарог без ліку,
усе прайсці — сіл не хапае,
кожная іншая ад другой
і да сябе нас заклікае.

На адных заўсёды сонца свеціць,
дамы з багатымі сталамі,
мамона вочы людзям слепіць,
кладуцца кветкі пад нагамі.

На тых дарогах чужыя людзі
лічаць маёмасці заўзята
і ў вірах тых даўно забылі,
калі будзённы дзень, а калі свята.

Ёсць і такія дарогі ў свет,
дзе пожня нам калечыць ногі,
пяском у вочы вецер дзьме
і людзі ў вопратцы ўбогай.

На ростанях крыж прыдарожны
прыпамінае нам, каб памаліцца,
падумаць, каму куды трэба пайсці,
а, можа, на момант прыпыніцца?

На свеце зямным дарог без ліку.
Тую адзіную знайшла я ўчора.
Без кветак, без болю яна павядзе
да віфлеемскае пячоры.

### Дарагі госць

Прыехаў у госці ўнучак да бабулі.
Бабуля абдымае яго, туліць.
Цяпер канікулы і лета –
давай пагутарым пра гэта.
Табе камп'ютара ўжо хапае.
Тут я другую думку маю:
ты мне паможаш у агародзе,
абедаць будзем мы ў поўдзень,
накормім коціка, кароўку,
у нядзелю пойдзем у царкоўку.
Сіл у мяне ўжо няшмат.
Будзь ты мне, мілы, дапамогай.
Ахвотна з ёю ўнук згадзіўся.
Так працаваў, аж прытаміўся.
Бабуля вячэраць запрасіла,
на стол святое палажыла.
Унучак збоку прыглядаўся
і ў бабулі запытаўся:
— Кладзеш ты сёння, клала ўчора,
ці ж гэта царкоўная прасфора?

### * * *

Пад нябесным блакітам
душою ў родную хату імкнуся,
ды не ў тую з дзяцінства,
бо даўно ўжо пустуе.

У далонях
з бацькоўскіх загонаў
жменька роднай зямлі,
а зрок усё ж цалуе
дагэтуль блізкія сляды.

### Чаканні

На бельскім
чыгуначным вакзале
затрымалася сонца.
Летні вецер
то заплятае,
то расплятае
мае валасы.
Дагэтуль
у далонях трымаю
цяпло тваіх рук,
думкамі адмерваю
хвіліны чакання.

Па пракладзеных
лёсам рэйках
адной дарогай
ад'едзем у будучае.

### Цёплае і вернае

Ізноў вярнулася восень
на мой хутар,
з больш пасівелымі
валасамі,
з маўклівымі, задуманымі
вачамі,
плакучымі днямі,
захадам сонца,
што пасылала мне
ўсмешку дзяцінства.
Непрыкметным ценем
за роднай хатай
прашмыгнула.
Назойлівай самотай
паблытала мае думкі.
Засумавалі вочы-вокны,
хатнія нябачна ў вечнасць адышлі.

А цёплае і вернае па-над усім.

### Сябру

Не для мяне
сукенку белую
прынёс мой светлы сон
і пад вянец
не вёў расхваляваны май.
Заручальны пярсцёнак
шчасцем для другой.

І маршам закрыў дзверы
маладосці маёй
маэстра Мэндэльсон.

### * * *

Як смакаваць здраду
і не чуць болю
— ступаць па ружах
цернямі не калечачы ног
— гаварыць маўчаннем
знаходзячы словы
— узяць тое
што немагчыма браць
— як плакаць
без слёз,
выпрасіць у старасці
недадзенае маладосцю.

# Пад царкву-помнік у Залешанах заклалі краевугольны камень









Царква святой Кацярыны і мучанікаў падляшскіх і холмскіх, у якой галоўнае месца будзе займаць Ікона Залешанскай Божай Маці, узнікне ў Залешанах. Мітрапаліт варшаўскі і ўсяе Польшчы архіепіскап Сава разам з духавенствам асвяцілі краевугольны камень пад новую царкву-помнік. Царква паўстае ў месцы, дзе пралілася нявінная кроў тых людзей, якіх сёння называем мучанікамі за веру:

— Такога дня яшчэ не было, як сёння. Як сказаў мітрапаліт Сава, гэта гістарычная даніна. Бо закладка царквы — гэта даніна памяці тым, хто быў замучаны за веру. Кроў мучанікаў зло не адолее, — казалі жыхары Залешанаў.

У Залешаны ў суботу прыехалі сотні людзей. Ужо некалькі гадоў у апошнюю суботу ліпеня тут адзначаецца свята Залешанскай Іконы Божай Маці. Сёлетнія ўрачыстасці ўзначальваў мітрапаліт Сава, а таксама бельскі і гайнаўскі епіскапы. Царква будзе нагадваць падзеі, якія адбыліся ў Залешанах 29 студзеня 1946 года, калі ад рук польскага ўзброенага падполля загінулі 16 чалавек, а вёска была спалена.

**Валя ЛАЕЎСКАЯ**
Беларускае Радыё Рацыя

# Рэканструкцыя бітвы 1812 года ля Міра

Ля сцен Мірскага замка, помніка Сярэднявечча, 13 і 14 ліпеня 2019 года ў чарговы раз прайшлі мерапрыемствы праграмы жывой гісторыі Міра. На гэты раз — III Ваенна-гістарычны фестываль «Мір-1812». Ладзіўся ён Гродзенскім аблвыканкамам і Карэліцкім райвыканкамам пры непасрэдным удзеле ваенна-гістарычных клубаў Беларусі на працягу двух выхадных дзён 13 і 14 ліпеня. Працавалі тэматычныя пляцоўкі Ваенна-патрыятычнага цэнтра «Казачы Спас» і Праваслаўнага брацтва Праабражэння Гасподняга Нясвіжскага благачыння.



І калі ў першы дзень ваенна-гістарычнага фестывалю гледачоў радавалі не толькі канцэрт калектыву казацкай песні і танца «Маме падабаецца», рэканструкцыя «Бою за замак», гандлёвыя рады, але і нават паўстала сама атмасфера таго часу ў раскватараваным у Мірскім парку і за яго межамі Белым лагеры.





У другі дзень дажджлівае надвор'е не спалохала рэканструктараў, якія прадстаўлялі воінаў рускай і напалеонаўскай армій, а таксама шматлікіх гледачоў і ўдала была праведзена рэканструкцыя «Бітвы пад Міром».

У рамках ваенна-гістарычнага фестывалю «Мір 1812» прайшлі II Міжнародныя спаборніцтвы па валоданні шашкай (шабляй) «Мірскія Шэрміцыі-2019».

І хоць, усё так ці інакш у Міры ў гэтыя дні нагадвала аб падзеях 1812 года, дарэчы было і паказальнае выступленне шатландскіх воінаў, своеасаблівы тэатр шатландскай пяхоты. Бо рыцарскія турніры ў дворыку Мірскага замка заўжды дапамагаюць узнавіць падзеі таго часу і дух сівой мінуўшчыны, сведкам якіх стаў Мірскі замак, гэты выдатны помнік дойлідства.

**Пятро ЖЭБРАК**
Фота аўтара

## Заблудаўская дэмаграфія

У Заблудаўскай гміне пражывае 9245 чалавек у 58 населеных пунктах. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2414 асоб. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насялення складае 27 чалавек на адзін квадратны кіламетр.

Найбольшыя вёскі ў гміне гэта Дабжынёўка — 690 жыхароў, Кур'яны — 643, Рафалоўка — 498, Рыбалы і СКР Рыбалы — 390, Галіцкія — 297, Зверкі — 270, Пратасы — 238, Крыніцкія — 232, Заблудаў-Калёнія — 204, Скрыбічы — 202, Лубнікі — 194, Загрушаны — 165, Фальваркі-Малыя — 164, Камёнка — 161, Паўлы — 153, Фальваркі-Тыльвіцкія — 149, Беласточак — 137, Фальваркі-Вялікія і Рэпнікі — па 128, Кудрычы — 117, Кухароўка — 105, Навасады — 99, Пасынкі — 96, Козлікі — 92, Кавалёўцы — 88, Целушкі і Плоскія — па 79, Жукі — 75, Баброва — 69 і Астраўкі — 66.

Да сярэдніх вёсак належаць Гнецюкі — тут пражывае 63 чалавекі, Давідавічы — 61, Заезерцы і Сольнікі — па 55, Малынка — 54, Ахрымовічы — 45, Заціша — 43, Альшанка — 42, Канюкі і Татараўцы — па 40, Сеські — 39, Ляшкі — 36, Алексічы — 35, Краснае — 32, Каўпакі — 30 і Жыўкова — 29.

Самыя малыя пасяленні ў гміне гэта Міневічы — 15 жыхароў, Сламянка — 13, Лук'яны — 10, Тэадорава — 5, Рудніца — 4 ды Багданец, Баравікі і Касцюкоўка — у кожным з іх усяго па адным жыхары.

На працягу двух апошніх гадоў лік жыхароў пабольшаў у Зверках і Красным — па 20, Кур'янах — на 17, Пратасах на 11, Камёнцы і Татараўцах па 10, Кавалёўцах — на 9, Заблудаве, Заезерцах і Козліках — па 6, Навасадах, Пасынках і Рыбалах — па 5, Альшанцы, Беласточку і Фальварках-Вялікіх — па 4 ды ў Кухароўцы і Лубніках — па 3.

Паменшала жыхароў у Рафалоўцы — на 10, Кудрычах — на 6, Паўлах — на 5, Крыніцкіх і Скрыбічах — па 4 ды Алексічах, Дабжынёўцы, Фальварках-Малых, Фальварках-Тыльвіцкіх, Рэпніках і Сеськах — па 3.

У Заблудаўскай гміне кавалераў значна больш чымсьці іх равесніцдзяўчат, таксама значна больш удоў чымсьці ўдаўцоў. **(яц)**

## Дэмаграфія Кляшчэлеўскай гміны

Кляшчэлеўская гміна займае плошчу ў 14 262 гектары і складае 9% тэрыторыі Гайнаўскага павета. Цяпер у Кляшчэлеўскай гміне пражывае 2489 чалавек у шаснаццаці населеных пунктах. Тры гады таму было 2966 асоб. Шчыльнасць насельніцтва складае 19 асоб на квадратны кіламетр. На 100 мужчын прыпадае 103 жанчыны.

Найбольшыя мясцовасці гэта горад Кляшчэлі — ён налічвае 1261 чалавека ды вёскі Дабрывада — 230, Дашы — 208, Палічна — 133, Сакі — 123, Сухавольцы — 117 і Тапаркі — 98. Сярэднія і малыя вёскі налічваюць Пагрэбы — 57, Залешаны і Курашава — па 49, Грузка — 35, Рэпчычы — 37, Жукі — 33, Белая Страж — 31 і Пятроўшчына — 26. У Косьнай жывуць толькі тры чалавекі.

У параўнанні да колькасці жыхароў у 2017-2018 гадах і цяпер дык паменшала іх у Кляшчэлях — на 16, у Палічнай — на 14, у Дашах і Грузцы — па 9 чалавек, у Пагрэбах — на 5, у Саках і Сухавольцах — па 3 ды ў Залешанах і Рэпчычах — па 2. Пабольшала на аднаго жыхара ў Белай Стражы. Зараз у гміне няма стагадовых жыхароў.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# У Ляўкове жыў багаты памешчык

Варта ведаць, што ў XVI стагоддзі ў Ляўкове быў памешчыцкі двор абарончага характару. Ён знаходзіўся на ўзгорку, на правым берагу дзікай пушчанскай ракі Нараўкі. Навокал акружалі яго багна. Адсюль адкрываўся вялікі прастор лугоў ад вёскі да Белавежскай пушчы. Двор быў абгароджаны вялікім густым частаколам. Цераз балоты з паўночна-ўсходняга боку вяла адна-адзіная вузкая дарожка і на яе гразкім месцы быў масток. У вёсцы пражывала 35 сялянскіх сем'яў.

Князь Ян Масальскі ў XVII стагоддзі фальваркі Ляўкова і Луку даў у арэнду Казіміру Хлусевічу. Дворскі ансамбль састаўлялі тры часткі: жылы будынак з вокнамі на раку ды дзве гаспадарчыя часткі. У галоўным абжытым будынку былі два вялікія пакоі, бакавы пакой, у якім была спальня, ды каморка-кладоўка, кухня. Побач галоўнага будынка знаходзіліся будынкі для ксяндза і дворскай службы. У яшчэ іншых будынках перахоўвалі харчовыя прадукты, дровы на апал.

Гаспадарчая частка была за частаколам-плотам. Там былі дзве стайні, адрына, пякарня, кароўнік, два свірны і вазоўня. Бліжэй ракі знаходзілася стайня для валоў, піваварня і сладоўня. Над даволі глыбокай у гэтым месцы ракою (у ёй была чыстая вада) стаяла лазня з памостам. Побач лазні ў глыбокай яме з вадой трымалі злоўленую рыбу.

Непадалёк ад дворскіх будынкаў пры высокім драўляным мосце на Баброўцы (яна правы прыток Нараўкі) пабудавалі вадзяны млын з вялікім колам ды фолюш. Тут быў глыбокі стаў, вакол якога раслі вольхі. Крыху далей за ставам Баброўка ўпадае ў раку Нараўку. На берагах Нараўкі раслі высокія шэрыя вольхі ды тоўстыя галінастыя вербы. Старыя дрэвы падалі ў раку і ляжалі счарнелыя на дне. На правабярэжным лузе насыпалі грэблю і частку вады з рэчкі Нараўкі накіравалі ў Баброўку, на млын.

29 сакавіка 1668 года на ляўкоўскі двор зрабіў напад судовы выканаўца Тэодар Дэнгоф. У той дзень уварвалася пару соцень узброеных людзей на конях. Яны забралі 10 французскіх пісталетаў, шмат сярэбраных прадметаў, звалькі сукна. Выкралі коней-аргамакаў, дваццаць валоў, дзевяноста ялавіц, дваццаць цялят, дванаццаць вепрукоў і сто авечак.

За набег князь Станіслаў Масальскі падаў на Дэнгофа ў суд і справу выйграў. Аднак кампенсацыі не атрымаў. У студзені 1669 года Дэнгоф памёр і высокага штрафу не заплаціў.

У першай палове XVIII стагоддзя князь Ян Казімір Масальскі пачаў рабіць інвестыцыі ў Ляўкове. Паралельна да рэчышча ракі Нараўкі быў выкапаны канал, насыпалі грэблю, на ёй пасадзілі дэкаратыўныя дрэвы і кустоўе. Прыгожая алея вяла да новапабудаванай царквы ў адлегласці двух кіламетраў ад панскага двара. А млын мог амаль бесперапынна працаваць, бо вада з ракі Нараўкі плыла і плыла каналам у сажалку, на якой стаяў млын. Чарговымі арандатарамі фальварка ў Ляўкове былі Ян Вянгерскі і да 1890 года капітан Юльян Каменскі.

Пасля меліярацыі Баброўкі пачала высыхаць глыбокая сажалка, на якой калісьці стаяў вадзяны млын. Аднак там, дзе быў памешчыцкі двор, захаваліся ў падмоклай даліне прыгожыя сажалкі. Мы, хлапчукі з Новага Ляўкова вечарам, калі лугі патаналі ў імгле, падкрадаліся да сажалак і лавілі рыбу сеткай. Я трымаў торбу і апекаваўся

чытайце ☞ 11

ШПАРКІ ЛОСЬ

## http://shparkilos.by

Прыкладна год таму „Ніва" пісала пра кавярню „Шпаркія вілкі", якая працуе ў Мінску. У нумары ад 12 жніўня 2018 года ўзгадвалася і магілёўская кавярня з падобнай назвай — „Шпаркі лось". У той час гаспадары апошняй не мелі сайта, але за прайшоўшы год ён усё ж такі з'явіўся ў інтэрнэце.

Зразумела, што назвы са словамі „шпаркі", „шпаркія" мусяць настроіць патэнцыйнага кліента на ўсведамленне таго, што яго вельмі хутка абслужаць. Так гэта ці не так спраўдзіць можна толькі пры фізічным наведванні кожнай кавярні. Што ж тычыцца віртуальнага наведвання, то як і ў выпадку „Шпаркіх вілак", сайт „Шпаркага ляся", які месціцца па адрасе **http://shparkilos.by**, выклікае зацікаўленне. І гэтае зацікаўленне грунтуецца на беларускамоўнасці як спосабе прыцягнення кліентаў.

„Хатка смачнай ежы" — так пазначаны „Шпаркі лось" на яго сайце. Праўда, нягледзячы на беларускамоўнасць, яе ўладальнікі замест слова „кавярня" чамусьці выкарыстоўваюць „кафэ", якое атрымала шырокі распаўсюд менавіта ў рускай мове за савецкім часам і тады ж прыйшло ў беларускую мову.

„У гасцях у ляся вы знойдзеце: аўтарскія бургеры, піцу, дранік-вежкі, завяртоны, веганскія стравы, гарачыя і халодныя стравы і шмат чаго іншага", — сцвярджаецца на галоўнай старонцы „ласінага" сайта.

Уласна выгляд віртуальнага прадстаўніцтва кавярні даволі прывабны, лёгкі ў навігацыі, а інфармацыя, што на ім змешчана, даступная для разумення. У той жа час ён даволі звычайны, не моцна адрознены ад сайтаў іншых кавярняў. І адзінае, што яго робіць незвычайным у спрэс зрусіфікаванай Беларусі, гэта вышэйзгаданая беларускамоўнасць. „Тут усё добра з абслугоўваннем па-беларуску, адміністрацыя аб тым сочыць і працаўнікоў шукае адпаведных", — адзначаецца на сайце-каталозе беларускамоўнага бізнесу „Свае".

„Як тэатр пачынаецца з вешалкі, так „Шпаркі лось" пачынаецца з ганку. Усе шыльдачкі і іншая патрэбная інфармацыя выключна па-беларуску. Інтэр'еры даволі цікавыя. Увесь час грала беларуская музыка", — піша водгук на тым жа сайце нехта Аляксей Манкевіч, які наведаў кавярню ў 2017 годзе.

Не вельмі кампліментарны водгук пакінуў у маі 2018 году наведвальнік Павел Колас. „Афіцыянта трэба было лавіць, і прабягаючы побач, у наш бок ён стараўся не глядзець, каб лішні раз не паклікалі. Пані за барам яму дапамагала, але даступнасць персаналу гэта не выратоўвала. Усё гэта кампенсавалася беларускай мовай без праблем і смачнай ежай", — піша ён.

Беларускасць „Шпаркага ляся" ў горадзе, які бяззменны беларускі правіцель, відаць, дрэнна вывучыўшы гісторыю, назваў рускім, адразу прыцягнула ўвагу незалежнай прэсы. Так, у верасні 2017 года на сайце „Радыё Свабода" з'явіўся матэрыял пра кавярню. Адтуль можна даведацца, што яе адчыніла літоўка з Вільні Даля Аніськова, якая выйшла замуж за беларуса. Яна лічыць свайго мужа беларускім патрыётам і вучыць беларускую мову. Праўда, магілёўскія рэаліі гэтай вучобе не спрыяюць. «Беларускай мовы не чувадь, таму і вывучаць не няпроста. Калі б усе тутэйшыя гаварылі па-беларуску, то я б ужо добра размаўляла на вашай мове», — адзначае жанчына з Літвы. «А так запытаеш у некага, як па-беларуску будзе нейкае слова, — адкажуць, а паколькі няма дзе яго ўжываць, дык яно і забываецца», — кажа ўладальніца беларускамоўнай кавярні.

Аляксандр Якімюк

Дата з Календара

## 105 гадоў з дня нараджэння

# Міхася Рагулі

Беларускі грамадска-палітычны, культурніцкі дзеяч Міхась Рагуля нарадзіўся 6 жніўня 1914 г. у вёсцы Ачукевічы на Навагрудчыне. Гэтая вёска дала для беларускага руху адразу некалькі актыўных дзеячаў, носьбітаў гэтага прозвішча. Міхась Рагуля — сын вядомага палітычнага дзеяча Васіля Рагулі. Ужо з дзяцінства Міхась змагаўся з цяжкасцямі і перашкодамі. Пра яго раннюю біяграфію можна крыху даведацца з кніжкі „Успамінаў" якраз бацькі Васіля Рагулі. Сын выдаў яе ў Нью-Йорку ў 1957 г. У прадмове да кнігі ўспамінаў Міхась Рагуля выяўляе патрыятычныя погляды і асуджае ўсе захопніцкія рэжымы, якія прыходзілі ў Беларусь.

Міхась Рагуля навучаўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі, а пасля яе закрыцця ў 1933 г. вучыўся на інжынера ў Варшаўскай палітэхніцы. У Варшаве ўваходзіў у кіраўніцтва Асветнага таварыства беларусаў. Далей, у 1940-1941 гг., быў працяг вучобы ў Львоўскай палітэхніцы.

Летам 1941 г. Міхась Рагуля вярнуўся ў Беларусь, працаваў загадчыкам аддзела культуры і асветы Віцебскай гарадской управы. Дбаў пра беларускія выдавецтвы, школьніцтва, тэатр, іншыя беларускія справы. Тады ж стаў разам са сваім маладзейшым сябрам Усеваладам Родзькам ды іншымі аднадумцамі заснавальнікам падпольнай Беларускай незалежніцкай партыі, мэтай якой было змаганне за незалежнасць Беларусі ад усіх, у тым ліку ад немцаў. Міхась Рагуля ўдзельнічаў таксама ў падрыхтоўцы партыйнай праграмы і статута новай партыі. Быў рэдактарам падпольнага „Бюлетэня БНП". Паводле сведчанняў Барыса Рагулі першы „Бюлетэнь БНП" выйшаў у Віцебску, але распаўсюджваць яго пачалі ў Навагрудку. Месца выдання першага нумара было выбрана невыпадкова. Менавіта ў Віцебску займаў пасаду бургамістра горада старшыня ЦК БНП Усевалад Родзька. Тут працаваў на ўправе і Міхась Рагуля, які меў падпольную мянушку „Чорны". Першы нумар падпольнага „Бюлетэня..." быў набраны на друкарскай машынцы і памножаны на шапірографе або ратататары. У ім былі змешчаны праграма і статут Беларускай незалежніцкай партыі, а таксама інфармацыя пра заснавальніцкі з'езд БНП. Усяго ж выйшла 6 нумароў бюлетэня, з якіх два ў Беларусі, а іншыя ў Нямеччыне.

У 1942-1943 гг. Міхась Рагуля рэдагаваў да газеты „Новый путь" беларускамоўны дадатак пад назвай „Беларуская старонка". Дадатак выходзіў штотыднёва з верасня 1942 г. У жніўні-кастрычніку 1944 г. Рагуля — выкладчык у ваеннай школе „Дальвіц". Пасля вайны вучыўся ў нямецкім Марбургу, уваходзіў у склад управы Цэнтралі беларускіх студэнцкіх арганізацый. Потым скончыў палітэхніку ў баварскім Мюнхене, атрымаўшы дыплом інжынера. У канцы 1948 г. выключаны з БНП. Стварыў „уласную" партыйную арганізацыю (прыхільную да Рады БНР), старшынёй якой некалькі гадоў з'яўляўся.

У 1950 г. Міхась Рагуля пераехаў у ЗША. Зрабіў там выдатную кар'еру ў галіне будаўніцтва фабрычных печаў. У 1950-х гг. браў удзел у беларускім грамадскім жыцці, быў сябрам рэдкалегіі газеты „Беларус". Пазней адышоў ад актыўнай грамадскай дзейнасці. Паводле ўспамінаў Янкі Запрудніка быў гарачым патрыётам Беларусі, чалавекам лагоднай натуры і добрых звычак.

Памёр Міхась Рагуля 6 ліпеня 2002 г. Пахаваны на беларускай частцы могілак у Іст-Брансвіку (штат Нью-Джэрсі).

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

ўловам ды сачыў з-за кустоў, каб не папасціся нам у рукі Мікалаю Леўчуку, жыхару дома на ўзгорку.

Ад памешчыка зямлю купілі сяляне пушчанскіх і больш аддаленых вёсак, між іншым, Курашава, Ласінкі і Луплянкі (яна каля Ялоўкі). У Новым Ляўкове 25 гектараў купіў мой дзед, які раней жыў у вёсцы Ліпіны каля Гайнаўкі. Траву на лугах паміж ракой Нараўкай і Баброўкай касілі (гэта за маёй памяці) Васіль Трусевіч, Надзея Болбат, Уладзімір Целушэцкі, Канстанцін Целушэцкі, Міхал Болбат (пасля сын Міхал), Васіль Грыгарук, Мікалай Сахарчук, Ян Сахарчук, Парфен Красноўскі, Мікалай Скепка, Павел Галубоўскі (пасля сын Канстанцін), Андрэй Галубоўскі (пасля сын Мікалай), Аляксандр Леўчук, Павел Ігнацюк (пасля сын Аляксандр), Цімафей Ігнацюк (пасля сын Мікалай), Ілья Пучынскі і іншыя. Помню не адзін год сенакосу на ляўкоўскіх сенажацях. Той прыемны пах сена незабыўны.

Да 1990 года частка сенажацяў на г.зв. дворыску належала, між іншым, Мікалаю Леўчуку і Кірылу Кучко з Новага Ляўкова. Апусцелая, з забітымі дошкамі вокнамі драўляная хата, накрытая чырвонай чарапіцай, Мікалая Леўчука стаіць на некалі панскім узгорку (на здымку). Уласнік яе памёр у канцы мінулага стагоддзя. Каля хаты расце вялікая купчастая сасна. У летні спякотны дзень на апусцелым хутары я на хвіліну затрымаўся і пачуў яе ціхі і сумны шум. Я памятаю тыя гады, як тут яшчэ бурліла жыццё.

Сын Кірылы Кучко, Аляксандр, на сконе жыцця вярнуўся з ваколіц Гданьска, дзе працаваў ветэрынарам і быў вопытным пчаляром, дажываць у бацькоўскі дом у Новым Ляўкове. Ён быў добрым маім суседам. Лячыў хатнюю жывёлу ў Ляўкове і суседніх вёсках. Памёр спадар Аляксандр у лютым 2012 года на 92 годзе жыцця. Пакоіцца на новаляўкоўскіх могілках. Ягоная бацькоўская хата стаіць пустая. Каля яе дзічэе запушчаны сад, у ім пад яблынямі стаяць пачарнелыя вулеі. Калі не стала гаспадара дык цяпер без пчол. Стадола, крытая саломай, развалілася і яе разабралі два гады таму.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

**8 жніўня 2019 года спаўняецца 75-я гадавіна з дня нараджэння нашага рэдакцыйнага супрацоўніка Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА. Жадаем яму здароўя, творчага пяра, бяспечных дарогаў і вяртанняў у родны дом.** (рэдакцыя)

# Свята фальклору ў Нараўцы



На Беласточчыне пад лозунгам „Падляшская актава культур" праходзіла свята фальклору. Была нагода захапляцца спевамі, музыкай, танцамі і абрадамі розных краін свету. На Беласточчыну прыехалі 22 фальклорныя калектывы (600 асоб) з дванаццаці краін.

27 ліпеня гэтага года пры цёплым сонечным надвор'і ды над ракою ў амфітэатры ў Нараўцы Гайнаўскага павета выступіў вакальна-танцавальны калектыў „Чарніца" са Славакіі — лепшы ў гэтай краіне. Мерапрыемства адкрыў войт Нараўчанскай гміны Яраслаў Галубоўскі, які цёпла і сардэчна прывітаў замежных артыстаў і публіку ды зычыў гледачам прыемных уражанняў ад канцэрта. На сцэне было калярова ад славацкіх нацыянальных касцюмаў, звінела цікавая для нашага вуха музыка (іншая ад нашай беларускай ці польскай), віравалі і віравалі танцы. Усе артысты калектыву прыгожа спявалі і танцавалі. „Чарніца" выступіла з гадзіннай праграмай.

Імпрэзу арганізавалі Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку ды войт гміны і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы. На канцэрт прыйшлі жыхары Нараўкі ды прыехалі жыхары з навакольных вёсак, між іншым, Лешукоў, Новага Ляўкова, Падляўкова, Плянты і Тарнопаля.

Тэкст і фота **Янкі Целушэцкага**

# Дзе пераначаваць і з'есці ў Гайнаўцы

Прыезджыя могуць у Гайнаўцы пераначаваць у гасцініцах, пансіянатах і прыватных кватэрах пры вуліцах 3 Мая, Варшаўскай, Паркавай, Ю. Пілсудскага, Ю. Тувіма, Арміі Краёвай і Ліпавай ды пры малых вулачках Бочнай, Мастовай і Сеўнай. Найбольш месцаў у прыватных гасцініцах, між іншым, пры вуліцы Варшаўскай ды ў Доме самараніна і Доме настаўніка.

Зараз у Гайнаўцы працуе дванаццаць рэстаранаў і бараў, у тым ліку дзевяць з рэгіянальнымі стравамі. Яны пры вуліцах 3 Мая, кс. І. Верабея, Варшаўскай, Беластоцкай, Бельскай, Ліпавай і Ю. Пілсудскага. Сярод вышэйзгаданых гастранамічных аб'ектаў вылучаецца, між іншым, бар „Бабушка" з беларускімі, рускімі і польскімі стравамі (ён у цэнтры горада, пры вуліцы 3 Мая). **(яц)**

**Віктар ШВЕД**

## Мінула эра ветракоў

Быў тут вятрак праз шмат гадоў,
Сялянам зерне ён малоў.
За чорны хлеб і пірог белы
Былі ў змаганні анямелым.

І помніцца, з якою сілай
Імкнулі ветраковы крылы.
І не забудуся ніколі,
Як вятры нам муку малолі.

## Айчыннае Мора

Маё Мора, вёска слаўная,
Яна поўнасцю праваслаўная.
Людзі добрыя, гасцінныя,
З моваю старой, айчыннаю.

Юзік Чарняўскі, каталік адзіны,
Ажаніўся з мясцовай дзяўчынай.
Абеларусіўся ён па ўласнай волі,
Пераймаючы вяскоўцаў долю.

Беласток, 29 ліпеня 2019 года.

# Адгаданка

1. сталіца з Крамлём, 2. несканчоная пара сутак, 3. турма, 4. рака ў Пакістане, 5. рака ў Чавусах, 6. сталіца з Гайд-паркам, 7. жыхар Маладзечна, 8. блакіт над зямлёю, 9. сталіца з Сеймам, 10. прыродная мінеральная сыравіна са злучэннямі металаў, 11. пухліна з вадкасцю, 12. дзяржава з Афонам.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — народная пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | | | 2 | 3 | | | |
| | | | | | 4 | | | | | | |
| | 5 | | | | | | | | 6 | | |
| 7 | | | | | | | | | 8 | | |
| 9 | | | | | 10 | 11 | | | | | 12 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 28 нумара**

Брага, боршч, абед, Бразілія, трактар, мантыя, табу, хутар, палена, арамат.

Рашэнне: **Багаты брат беднаму брату не рад**.

# 11.08 — 17.08

**(22.03. — 20.04.)** 10-13.08. можаш адчуць абыякавасць да тваёй асобы і адсутнасць ад кампаніі. Прапанова атракцыйнага выезду. Калі страціш працу, доўга не будзеш без занятку. Калі знайшоў ты сваю палову, у другой палове месяца шыкуйся на абручыны або нават шлюбныя планы. У здароўі важная прафілактыка.

**(21.04. — 21.05.)** 11-15.08. не ўблытайся ў небяспечны раман. 14-16.08. апынешся пад абстрэлам, прытым са шмат якіх бакоў. Зараблянне грошай палегчыць табе квадратура Венеры. Сінглы не будуць спяшацца да наладжвання новых знаёмстваў. З 14.08. пакажуцца табе магчымасці выказацца талентамі. Момантамі дакучаць будзе табе проза жыцця.

**(22.05. — 22.06.)** Заззяеш кемлівасцю. Адкрыеш у сабе жылку да інтарэсаў і заробіш шмат грошай. 11-17.08. можаш першы працягнуць руку да згоды. Адчуеш смак кахання, а партнёр і ўсё што з ім звязанае дададуць табе крылаў. На працы прыйдуць у галаву найлепшыя ідэі народжаным у І дэкадзе; можаш трапіць на фантастычную развязку фінансавых праблем. Або з 15.08. палічыш, што табе варта рабіць штосьці іншае. Сядзь на лягчэйшую дыету.

**(23.06. — 23.07.)** 12-16.08. можаш быць прымушаны да рашэнняў, з якіх да канца не будзеш задаволены. 14-16.08. твае чаканні могуць аказацца нерэальнымі ці лішне высокімі. Але зоркі прамуюць адвагу і перакрочванне ўласных абмежаванняў. Рак з І дэкады 15-17.08. можа пад уплывам імпульсу рашыцца на перасяленне, напрыклад у месца, у якім быў у адпачынку. Дбай аб свае ныркі і пі многа вады.

**(24.07. — 23.08.)** 14-16.08. не бойся адважных прыёмаў і не адкладвай нічога на пасля. 15-17.08. не рабі нічога абы-як і на апошнюю хвіліну. 11-17.08. у тваім жыцці можа паявіцца тая асаблівая асоба, толькі не накідвайся ёй, усміхайся і чакай. Адчуеш сябе, быццам трапіў «6» у латарэю! На працы не расставайся з тэлефонам, правярай электронную пошту. Знойдзеш час і грошы.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш моцна заняты, каб марнаваць час на рандэву. Прытым твой любоўны радар будзе дзейнічаць на вельмі выдатна. На працы будзе момант, што сам не паверыш у сваю кампетэнтнасць. Нічога, у кожнага могуць паявіцца памылкі, неўзабаве ніхто не пасмее цябе крытыкаваць. Сам лепш не крытыкуй кіраўніцтва, у вочы і па-за вочы, бо невядома хто можа данесці. Адпачывай, высыпайся, пазбягай стрэсавых сітуацый.

**(24.09. — 23.10.)** 11-13.08. хтосьці можа злоўжываць тваім даверам ці слабасцю. 11-15.08. не дай сабе ўгаварыць, што да чагосьці не надаешся. Будзе ў табе многа цяпла і сардэчнасці. Больш імпрэз і сустрэч. Шалі з І дэкады 15-17.08. могуць атрымаць прапанову выезду-курсаў; бяры — спрыяе табе ўсё, што звязана з замежжам; варта асвяжыць веданне моў. 11-17.08 зоркі хочуць цябе адорыць вялікімі грашыма! Хопіць апынуцца ў адпаведным месцы і часе або зазначыць на купоне 6 лічбаў, якія табе прыйдуць у галаву!

**(24.10. — 22.11.)** Неспакойна і мітусліва, але зможаш вырашаць аб сваіх справах. Масавы абстрэл зорак. Але будзеш моцны і трывалы. 14-16.08. не настаўляйся на адпачынак, будзе як завязаць, не хопіць табе на ўсё часу. 11-15.08. твая сувязь можа завіснуць на валаску (прычына — хтосьці трэці). Найлепш не ўключайся ў канікулярныя флірты. Скарпіёны без пары будуць рамансаваць на ўсю катушку. Скарпіёны з ІІ дэкады, калі шукаюць працу, няхай робяць гэта паціху. Сістэматычна дбай аб фігуру.

**(23.11. — 22.12.)** 14-16.08. можаш укрунуцца ў элітную кампанію. Але 12-16.08. можа ў табе прачнуцца гнеў, зайздрасць і згубная схільнасць да рызыкі. Лепш да ўсяго падыходзь з усмешкай і «люзам». Нагода паказаць узаемнасць партнёру 11-17.08. Не трацць энтузіязму і жыццярадаснасці. Някепская форма. На рабоце інвестуй у рэкламу.

**(23.12. — 20.01.)** Паразуменне з тымі, на кім табе залежыць. Самотныя Казярогі будуць наладжваць знаёмствы без асаблівага поспеху. Сярод сяброў і радні не марудзь. На працы мноства задач, але справішся, засяродзься на самым важным. 15-17.08. не ўключайся ў «пыскоўкі» і спрэчкі. Цешся тым, што маеш, а сціпласць — твой найбольшы козыр.

**(21.01. — 19.02.)** У дасягненні мэт дапаможа табе Марс. 15-17.08. можа быць нервовая атмасфера і немалое замяшанне. 14-16.08. часцей выходзь са сваёй парай. Самотны Вадалей: 11-17.08. будзь вельмі асцярожным з ачаравальнай асобай, якая будзе страшэнным эгацэнтрыкам ды нарцысам, а ты ж не хочаш быць фонам для сэльфі. Твой арганізм патрабуе рэгенерацыі — не парывайся на цяжкія заданні, добра высыпайся. Вандроўкі плануй з галавой. Будзь асцярожны не толькі ў горах, але і на простай дарозе.

**(20.02. — 21.03.)** 11-13.08. магчымае расчараванне ў каханні. 11-15.08. прыглянься таму, хто будзе круціцца каля твайго партнёра; трымай руку на пульсе. У хаце больш абавязкаў; справішся з імі да ІІІ дэкады. Рыбы народжаныя ў ІІ дэкадзе знака няхай пільнуюцца, каб не патаўсцець. Больш варушыся!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# У Рагачах




У паломніцтва...




Афіша перад будынкам крамы

У тэлебачанні пабачыў я, што ў Рагачах адбудзецца беларускі фэст — у аўторак. Звычайна такія фэсты ладзяцца па нядзелях... Але ж прыпомнілася мне, што ў аўторак, 23 ліпеня, маецца свята Антонія.

Мой пакойны дзед абураўся калісь, што ў Нарве няма парадачнага свята, як у іншых прыходах, толькі там адзначаецца менавіта Антонія. Калі б адзначалі там Юрыя, Пятра, Ілью ці Прачыстую, то было б прэстыжна, а Антоній гэта не тое...

Рашыў я тады паехаць у Рагачы, у якіх ужо даўнавата не быў, і дзе адзначаецца царкоўнае свята Антонія, і заадно пабачыць анансаваны беларускі фэст. Сеў у цягнік і паехаў. З Беластока ў Чаромху, а далей „Чарамшаком" Мазавецкіх чыгунак да прыпынку Баравікі. Прыпынак той першы за Чаромхай, цягнік жа шпарыць аж у Варшаву. Пасажырскага народу крыху ў той цягнік назбіралася і стала чарга да правадніка за білетамі. Шмат яшчэ мне аставалася чакаць у той чарзе, калі цягнік спыніўся на прыпынку Баравікі. Такім чынам праехаў я гэты адрэзак падарожжа зайцам...

На прыпынку Баравікі быў я каля двух гадоў таму і тады была там зроблена падсыпка пад перон у новым месцы — бліжэй дарогі менавіта ў Рагачы. Спадзяваўся я тады, што ўжо той прыпынак будзе выглядаць інакш, да таго ж у новым месцы. Аднак цягам двух гадоў нічога там не змянілася — краявід быццам стабілізаваўся, цягнік спыніўся пры старым пероне, бліжэй Баравікоў.

І так шпару я праз сасновы лес, што вырас на месцы поля цягам апошняга паўвека, даўняй палявой, а зараз лясной дарогай. Каля кіламетра ад прыпынку стаіць у драўлянай агароджы са штыкецін цэментны крыж, які быў „соружон огулом 1970 года"; значыць менш-больш у той час, калі тамашнія земляробы развітваліся з адвечнай сваёй зямелькай-карміліцай, адпраўляючы чарговае пакаленне за лягчэйшым гарадскім хлебам.

Зараз паказалася і жвіроўка ў Рагачы, і пачуліся царкоўныя званы. У царкву завітаў я каля дзясятай гадзіны, малебен ужо правіўся; узначальваў яго архіепіскап Грыгорый. Народ пастаянна прыбываў, у царкве станавілася штораз цясней і я рашыў саступіць сваё месца мясцовым вернікам, адыходзячы ў прытвор. Настаў час пропаведзі і шмат нашага царкоўнага народу тут жа падалася ў „бежанства" з царквы. А тыя, што хацелі надалей прысутнічаць у цырымоніяле, асталіся — галоўным чынам каб абмяняцца сваімі навінамі. Бо ж прыходскае свята гэта не так ушаноўванне нейкага святога, як нагода для кампанейскай сустрэчы. За мною такім інфармацыйным абменам заняліся дзве гаваркія жанчынкі і голасу прапаведніка зусім не было чуваць...

Падаўся і я ў „бежанства", азірнуцца па царкоўным наваколлі. Але спярша слоў пару пра заступніка царкоўнага фэсту ў Рагачах, святога Антонія, якога ўшаноўваюць таксама ў Курашаве і ў згаданай ужо раней Нарве. У гэтых прыходах адзначаецца памяць святога Антонія Пячэрскага. Царкоўны даведнік: „Антоній Пячэрскі (983-1073) — адзін з заснавальнікаў Кіева-Пячэрскай лаўры і пачынальнікаў рускага манаства. Нарадзіўся і жыў у горадзе Любечы (паблізу Чарнігава). Паводле падання, манаства прыняў на Афоне, потым вярнуўся ў Кіеў, дамогся ў кіеўскага князя дазволу адкрыць манастыр на ўзор афонскага. Кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой".

Праславіліся і іншыя манахі па імені Антоній. Храналагічна першым з іх быў Антоній Вялікі. Вікіпедыя, па-беларуску: „Антоній Вялікі, вялебны (каля 251, Кома, Егіпет — 356, Дэйр-Мары) — раннехрысціянскі падзвіжнік і пустэльнік, заснавальнік пустэльнага манаства. Дзень памяці — 30 студзеня (17 студзеня па старым стылі)". Па-польску: „Abba Antoni uznany został przez historyków za rewolucjonistę duchowości chrześcijańskiej, bowiem w czasach, kiedy stało się ono religią państwową i przestała istnieć potrzeba oddawania życia za wiarę, wypracował on nowy model męczeństwa polegający na dożywotniej kontemplacji na pustyni w całkowitym wyrzeczeniu się siebie i surowej ascezie". Па-расійску: „Из многих византийских и западноевропейских изображений, связанных с аскетическими добродетелями, целебными силами и природой, с XV столетия выделяется наиболее популярный мотив — искушение святого Антония. Многообразие изображений святого Антония связано с тем, что его считают покровителем многих профессий: крестьян, всадников, звонарей, корзинщиков, щёточников, мясников, гробовщиков. На Востоке Антония почитают как отшельника и отца монахов, на Западе, напротив, — как чудесного целителя, которому приписывается способность лечить. Популярность Антония достигла вершины в Средние века в западной церкви".

Чарговым святым быў Антоній Падуанскі. Вікіпедыя, па-польску: „Święty Antoni jest patronem osób i rzeczy zaginionych, Lizbony, Padwy, franciszkanów, antoninek, licznych parafii, kościołów i bractw; dzieci, górników, małżeństw, narzeczonych, położnic, ubogich, podróżnych. Patronuje ok. 150 parafiom na terenie Polski. Św. Antoni Padewski patronuje także historycznej stolicy województwa podlaskiego — Drohiczynowi. W kościele pofranciszkańskim znajduje się łaskami słynący obraz świętego. Można tam usłyszeć również składający się z blisko 30 zwrotek Kant do Św. Antoniego Padewskiego, który jest w ostatnich latach śpiewany w skróconej do 11 zwrotek wersji. Coroczny Odpust św. Antoniego cieszy się większą popularnością aniżeli rocznica poświęcenia kościoła katedralnego pw. Trójcy Przenajświętszej w Drohiczynie". З'яўляецца ён таксама заступнікам парафіі ў падбеластоцкай Невадніцы-Касцельнай. У адной са сваіх пропаведзей Антоній Падуанскі прымяркоўваў чалавечае жыццё да прабывання ў грэшным коле, з якога складана вырвацца. Набожны чалавек павінен наблізіцца да акружнасці гэтага кола, каб адтуль сузіраць бязгрэшную пакорлівасць перад Творцам...

І яшчэ адзін Антоній, таксама блізкі нам, тутэйшым; гэта Антоній Супрасльскі, які жыў у XV-XVI стагоддзях. У маладосці буяніў, забіў чалавека. Жадаючы раскаяцца за свой грэх, стаў манахам Супрасльскага манастыра, а затым рашыў пакутаваць за веру, прыняўшы смерць з мусульманскіх рук. Апынуўся ён у Салоніках, дзе ў час мусульманскай малітвы ганіў вернікаў, за што быў збіты і кінуты ў цямніцу, а пасля спалены, а ягоны прах рассеяны, каб не допусціць паклянення новамучаніку хрысціянамі...

Вакол рагачоўскай царквы, традыцыйна, стаялі ларкі з рознай дробяззю. На вулічным электраслупе ўбачыў я афішу пра „Беларускі народны фэстын"; склеена яна была клейкай празрыстай стужкай. Фэст меў пачацца ў пяць гадзін пасля поўдня на пляцы перад пажарным дэпо. Выступіць мелі „Чыжавяне", „Хутар", „Васілёчкі", „Рассяпаны Гарадок" і „Лайланд". У польскамоўнай версіі на мерапрыемства запрашалі мілейчыцкія войт і Гмінны асяродак культуры, у беларускамоўнай версіі да іх далучалася Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Каля згаданага дэпо інфармацыі пра мерапрыемства не было, а перад будынкам рагачоўскай крамы была афіша пра падзею, але без зместу...

Гадоў чатыры ці пяць таму заўважыў я гэтую хібу ў Беластоку — афішы пра лджаныя Беларускім грамадска-культурным таварыствам імпрэзы складаліся з двух аркушаў паперы: базавага з эмблемай БГКТ і верхняга з інфармацыяй пра канкрэтнае мерапрыемства, які прыклейваўся на базавы. Адно клей не заўсёды быў акуратны і інфармацыйны аркуш адклейваўся, пакідаючы толькі пустое месца. У Беластоку арганізатары фэстаў сталі друкаваць афішы на адным аркушы і цяпер там інфармацыя акуратная. Але што зрабіць з нарыхтаванымі двайнымі аркушамі? А што робяць вясковыя выхадцы ў горад са старой мэбляй, калі ў сваіх кватэрах мяняюць яе на новую? Вывозяць яе „на вёску". Тое ж самае было зроблена і з двайнымі афішамі — павандравалі яны „на вёску". І не выглядае гэта на павагу да адрасатаў культурнай прапановы. У Мядзвежыках на вясковым стэндзе справа выглядае лепш: няма там аздобнай падкладкі, а інфармацыйны аркуш прышпілены папросту кнопкамі да дошак...

Са стэнда перад рагачоўскай царквой: Царква паходзіць верагодна з першай паловы XIX стагоддзя. Як паведамляе прыходскі летапіс, вельмі набожны чалавек, Матушэвіч, знайшоў на грушы на бугарку побач дарогі між Рагачамі і Мікулічамі ікону святога Антонія Пячэрскага. Мяркуючы, што гэта Божая падказка, рашыў на гэтым месцы ўзвесці царкву. Пень ссечанай грушы выконваў ролю алтара; здарылася гэта паміж 1725 і 1754 гадамі. Ікона святога Антонія хутка стала месцам культу навакольнага насельніцтва; многіх св. Антоній аздаравіў. Сама ікона таксама цудоўна ўцалела ў час пажару, які ў 1872 годзе ўспыхнуў у царкве. На месца згарэлай царквы быў перавезены храм з Дубін каля Гайнаўкі.

У Рагачах была калісь не адна крама, а зараз не працуе ніводная; мураваны будынак, які трымаўся найдаўжэй, чакае новага карыстальніка. Недалёка школьны будынак, які здаецца, трапіў у той бытавы ўнісон, які ўласцівы ўсёй прыродзе. Падобны той будынак на гніючае зярнятка, з якога вырасла сцябліна з новымі зярняткамі ў коласе; рагачоўскія новыя зярняткі растуць недзе ў Сямятычах, Варшаве, Бельгіі...

На народны фэст не давялося мне астацца — не было б чым вярнуцца ў Беласток. Таму і пашпарыў я на сваіх дваіх у адлеглую каля васьмі кіламетраў ад Рагачоў Чаромху...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



ISSN 0546-1960